«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 3 (223), сакавік 2025 года


# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 3 (223) (сакавік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus


## Змест





**ПАМЯЦЬ**

# «Толькі слова скажа»

## Пра паэта Алеся КАСКО (1951—2017)

Мікола ПРАКАПОВІЧ

Што такое Паэзія? Сотні разоў зададзенае пытанне без адказу. Бо як растлумачыць тое, што раптам пачынае біцца жылкай на скроні, выбіваць свой рытм у сэрцы, гучаць нязнанай дагэтуль мелодыяй у тваёй душы?

«Радасць прыходзіць пасля... А перад тым — пакутлівая духоўная праца, якая вымагае шмат сілаў.

*...толькі гэта слова скажа,*
*толькі гэты камень ляжа*
*над магілаю тваёй».*

Цытую радкі з відэаінтэрв'ю Алеся Каско з нагоды прысуджэння яму абласной літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка за зборнік «Свой камень» (у калектыўным зборніку «Трохперсце») — не першай адзнакі творчасці майго даўняга сябра і выбітнага паэта. Да гэтага былі гарадская рэгіянальная прэмія «Берасцейская зорка», рэспубліканская літаратурная прэмія імя Аркадзя Куляшова.

Што ж, атрымліваць прэміі не толькі прыемна — для аўтара яны чарговае сцверджанне вартаснасці, спраўджанасці абранага шляху. Бо шлях любога творцы ўсцілаюць не столькі ружы, колькі калючкі. І раскідваем іх перад сабою, пакідаем ззаду на скрываўленых слядах найчасцей мы самі... Яны — нашы сумненні, наш боль ад убачанага і перажытага, адчай ад немагчымасці нешта змяніць і ва ўласным лёсе, і ў жыцці грамадства.

*Святла шукаю ў чарнаце,*
*якая хіжа іклы шчэрыць.*
*Баюся, гладжу ноч, бы звера:*
*шарсцінкі страху на руцэ.*

Пра паэзію Алеся Каско часам даводзілася чуць вырак: змрочная. Так, мы, жывыя, вечна з недахопам шчасця, прагнем — у вершах, раманах, фільмах, — каб шлях, што вядзе ў безвыходнасць, раптам засвяціўся промнем надзеі, каб страчанае, здавалася, назаўсёды каханне вярнулася цнатлівай усмешкай... А ў жыцці?

Які аптымізм можна выснаваць з адпявання?

*Стаяла дзяўчынка ў храме*
*між чорнага ў ясным, белым,*
*пад Янам святым у раме,*
*над дзедам сваім знямелым.*

А я не ведаю больш светлага, больш аптымістычнага верша, чым гэты. І мы, чытачы, разам з юнай гераіняй, якая, патураючы родным, хрысцілася «маленькаю ручкай белай і чыстаю, бы ў анёла», выходзім з храма не на могілкі, не ў незваротнасць — мы ступаем у наша агульнае заўтра:

*Яснела ў нябёсах весніх,*
*і кожны мог заручыцца:*
*памерламу — уваскрэснуць,*
*нажыўшаму — нарадзіцца.*

Мне пашчасціла за жыццё пабываць на шматлікіх рэках і рачулках, якія не даюць канчаткова перасохнуць нашай, некалі паўнаводнай, што ў паводку разлівалася на дзясяткі кіламетраў, Прыпяці. І нават пакупацца, панырцаваць у іх вірлівай плыні, выкідваючы з цянётаў лазняку ладных акунёў і плотак. Ясельда і Бобрык, Цна і Гарынь... А яшчэ Лань, ці Лана, як называе яе тамтэйшы краязнавец Сцяпан Нефідовіч. Рака дзяцінства, рака паэзіі Алеся Каско.

*Па сутнасці — як і было:*
*малочная рака па грудзі,*
*і коні фыркаюць на грудзе,*
*і сонца толькі што ўзышло.*

Зазвычай я прыязджаў у Чудзін з тэлегрупай. Праглядаю знятыя там праграмы: мост над ракой з боку Сержпутоўшчыны, зацішная тоня з веерам лодак. І Алесь, яшчэ малады, поўны сіл — чытае адзін з новых вершаў.

*Нырцую і праз лазнякі*
*на сенажаць выходжу бродам.*
*Зноў адчуваю, скуль я родам:*
*з вялікіх траў, з сівой ракі.*

Ды што гэта: такі светлы верш — і такая нечаканая выснова:

*Зноў — як было: раса, святло,*
*соль працы, сон у прахалодзе...*
*Ды там, на нейкім юным годзе,*
*мне гэтак скрушна не было:*
*я ўсё ўжо знаю аб зыходзе.*

Мы неяк, праз інстынкт самазахавання, пабойваемся гаварыць пра зыход. Алесь, ужо пасля трыццаці, не-не ды й звяртаўся да гэтай тэмы. А ў вершы «Элегія», які стаўся песняй, нават уявіў сябе... нябожчыкам:

*Аблашчаць дыханнем, нацягнуць уборы,*
*пакажуць святліцы ў вянках —*
*і свечку запаляць, і ў дзіўнай пакоры*
*самкнецца з рукою рука.*

Я, упершыню пачуўшы песню ў выкананні маладой «бардзіхі», успрыняў яе як змрочны палітычны карнавал. Бо якая ж смерць, калі «так хораша кропелькі свечак на лапках яловых зіхцяць»? Калі сэрца поўніцца «адною табою і любіць яно спакваля за тое, што ёсць, што жывеш і за тое, што будзе з табою пасля...»



Злева направа — Алесь КАСКО і Мікола ПРАКАПОВІЧ. 1981 г.

У сталым узросце тэма самоты і, як вынік, безабароннасці чалавека перад вечнасцю ўсё часцей прыходзіць у Алесевы вершы.

*Самота — на вяршыні дзён самота,*
*дагэтуль імітацыя была:*
*ты цемрай заваражваўся, а ўпотай*
*душа шчымела ў шчылінцы святла.*

Я не думаю, што гэта была боязь зыходу: была роспач — не зрабіў, не паспеў, не здзейсніў; быў роздум, клопат пра тое, што ён пакіне пасля сябе, якой ён хоча бачыць сваю радзіму, паэзію, літаратуру, сяброў. Гэта быў роздум чалавека неабыякавага.

*Пасля мяне, трава, расці,*
*сціблінка, набірайся сілы;*
*скрозь час глухі і рух бяскрылы,*
*скрозь ледзь прагрэты жвір магілы*
*пасля мяне, трава, расці.*

І яшчэ адзін відэасюжэт. Вясковая вуліца, за раскідзістай яблыняй бялее хата Каскоў. Яна амаль на ўскрайку Чудзіна: направа вёска, налева, за поплавам, — Лань. На лавачцы перад хатай Алесь, бацька і маці, дачка Вольга, яшчэ школьніца. Усе нейкія ўрачыста-задуменныя. Алесь некуды ўдалячынь, міма камеры, дэкламуе верш «Зноў я дома, дома, дома».

*Адно б доля захацела!*
*Хату загадзя прашу,*
*каб адвеялі ад цела*
*толькі тут маю душу.*
*Толькі тут ёй будзе добра,*
*дзе паўзмрок і цішыня,*
*дзе матуля, як мадонна,*
*будзе вечна ля акна.*

Доля і радзіма Алеся захацелі, каб ён быў бліжэй да іх, да Жабінкі, дзе прайшло ўсё сталае жыццё. Прыдарожныя, ля гасцінца Берасце — Мінск, федзькавіцкія могілкі. Непадалёку таксама рака — Мухавец, над якою нямала думана-перадумана. Па суседству магіла сябра-паэта, самотніка Васіля Гадулькі. Магчыма, цяпер нагаворацца, і ў гэтым знойдуць супакой іхнія душы...

Некалі ў Алеся Пісьмянкова друкаваліся лірычныя запісы — «Думаць вершы». Гэтыя два Алесі сябравалі, і пра творчасць Алеся Каско можна сказаць «думанне вершамі». Чыста эмацыйных вершаў у яго, бадай, проста не было. Эмоцыя магла быць нейкім штуршком да верша. Але галоўнай для яго была думка: дзеля чаго, што я хачу сказаць вершам. Зразумела, гэта была не агаленая публіцыстыка, а думка, афармленая вобразамі, метафарамі, якія бяруць чалавека за жывое. Гэта было паэтычнае слова, Паэзія з вялікай літары. І яна застанецца з намі.

*Гэта трэба, гэта сніцца:*
*вы адчулі — не стае*
*хоць часцінкі, хоць драбніцы,*
*хоць крывінкі мае.*

# Беларускі пясняр з Беласточчыны

Сяргей ЧЫГРЫН

*Ёсць, можа, мовы яшчэ*
*прыгажэйшыя,*
*Я ж паўтараць безупынку гатоў:*
*Мне наймілейшая,*
*найдаражэйшая,*
*Найласкавейшая —*
*мова бацькоў...*

Гэтыя радкі належаць цудоўнаму чалавеку, паэту, публіцысту і беларускаму грамадска-культурнаму дзеячу з Беластока Віктару Шведу (1925—2020), якому 23 сакавіка споўнілася б 100 гадоў.

З Віктарам Шведам я сябраваў больш за тры дзесяцігоддзі. Напісаў і апублікаваў пра яго творчасць шмат артыкулаў, а ў мінскім выдавецтве «Кнігазбор» у 2015 годзе выдаў кнігу пра яго жыццё і творчасць «Мора Віктара Шведа».

Мора — гэта яго родная вёска на Беласточчыне. Гадоў пятнаццаць таму мы трымалі ў руках яго прыгожую кнігу вершаў «Адплываем з Мора». Ужо тады паэт пісаў, што амаль усе яго сваякі з роднай вёскі Мора адплылі ў іншы свет, а цяпер наступае і яго чарга. Я напісаў артыкул пра той зборнік і назваў яго «Адплываць з Мора яшчэ рана». Ды куды адплываць, калі наперадзе ў яго было шмат спраў, планаў, літаратурных задумак і адкрыццяў?

Эрнэст Хэмінгуэй некалі напісаў празаічны твор «Стары і мора». Калі б сёння жыў прадзядуля Хэмінгуэй і калі б ён сваё апавяданне прысвяціў Віктару Шведу, то ён яго назваў бы не інакш, як, магчыма, «Малады і Мора». Бо Віктар Швед тады, нягледзячы на свае апошнія дзевяць дзясяткаў гадоў, заўсёды адчуваў сябе маладым, прыгожым, шчаслівым, натхнёным, і нам, маладзейшым літаратарам, заставалася толькі яму пазайздросціць, браць з яго прыклад, вучыцца ў яго цярпенню і аптымізму. А роднае Мора заўсёды натхняла яго на новыя творы, вяртала ў маленства і юнацтва, якія не давалі яму старэць і падаць духам. Вось такі быў ён, Віктар Швед, — беларускі пясняр з Беластока.

У маленстве хлопчык Віця вымушаны быў сядзець з хворымі на грозную трахому вачыма ў цемры дзедавай хаціны з малымі акенцамі, шчыльна завешанымі дзяружкамі. І толькі ў чатырохгадовым узросце ўпершыню змог ён убачыць белы свет, які зачараваў яго да такой ступені, што не мог ён не ўсхваляць малога. Таму яшчэ ў дашкольным узросце, пасвіўшы з вясковымі жэўжыкамі каровы, паўтараў Віця з памяці рыфмаваныя куплеты ў мясцовай гаворцы роднай вёскі Мора, чым здзіўляў сваіх сяброў.

Будучы вучнем пятага класа польскай пачатковай школы ў мястэчку Орля, пачаў хлопчык пісаць вершы на польскай мове. Пазнаёмілася з імі настаўніца Галена Ціжэхова і ўпершыню назвала Віцю «паэтам».

Падчас савецкай улады ў школьныя 1939—1941 гады быў ён у мястэчку Орля вучнем беларускай дзесяцігодкі, у якой усе прадметы вывучаліся на беларускай мове, на якой стаў юны Швед



Віктар ШВЕД

пісаць вершы і быў скіраваны школай са сшыткам сваіх твораў на алімпіяду дзіцячай творчасці ў Бельску-Падляшскім.

У пасляваенны перыяд паглыбляў юнак свае моўныя і літаратурныя веды ў беларускіх школах у Гайнаўцы і ў Бельску-Падляшскім, а пазней — на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта.

Працуючы рэдактарам у кніжным выдавецтве «Książka i Wiedza» ў Варшаве, Віктар Швед зрэдку друкаваў уласныя вершы ў сваім перакладзе на польскую мову ў адрыўных календарах, якія выдаваліся мільённымі тыражамі. На жаль, да 1956 года не было ў Польшчы магчымасці пісьменнікам друкавацца на беларускай мове, і яны не мелі ў той час аніякіх кантактаў з Беларуссю.

Пасля польскай «адлігі» ў 1956 годзе польскія ўлады пачалі заўважаць у Польшчы існаванне нацыянальных меншасцяў. Былі пакліканы да жыцця грамадскія арганізацыі, у іх ліку і Беларускае грамадска-культурнае таварыства (БГКТ) і яго друкаваны орган — беларускамоўны тыднёвік «Ніва» ў Беластоку. Уключыўся і Віктар Швед у арганізацыю беларускага культурнага жыцця, навязаў кантакты з беларускім тыднёвікам і ў 1957 годзе стаў яго штатным рэдактарам.

Віктар Швед жыў і працаваў у Варшаве сорак гадоў, і за гэты перыяд з'явіліся толькі тры яго паэтычныя кніжкі. Каб не адчуваць сябе адзінокім у польскім асяроддзі, працаваў ён у Варшаўскім аддзеле БГКТ. Аддзел налічваў каля 300 сяброў, напалову былі гэта студэнты вышэйшых навучальных устаноў Варшавы. Арганізавалі яны клубную культурна-асветную працу, праводзілі лекцыйную дзейнасць з беларускай тэматыкай. Наладжвалі аўтарскія сустрэчы з беларускімі і польскімі пісьменнікамі, якія пражывалі ў Варшаве, і з пісьменнікамі Беларусі, якія наведвалі Варшаву. Адбыліся сустрэчы з Максімам Танкам, Пятром Глебкам, Уладзімірам Караткевічам, Адамам Мальдзісам, Алегам Лойкам, а таксама з многімі навуковымі супрацоўнікамі з Беларусі. У сваім зборніку «Мае Айчыны» (Беласток, 2003) паэт сцвярджаў, што ён надта багаты, меў аж тры айчыны: Польшчу, якая яго ўзгадавала, адукавала і дала працу, Беларусь, якая яго натхняла да творчай дзейнасці, і малую айчыну — Беласточчыну, якую ён услаўляў у сваіх вершах, якая з'яўляецца яго калыскай і стала яго спачынам. Толькі ў пенсійны перыяд ён пераехаў на Беласточчыну, дзе і разгарнуў свае крылы, выдаючы дзясяткі сваіх кніг...

У розных жыццёвых абставінах Віктар Швед заставаўся шчырым беларусам. Пра гэта паэт адкрыта і публічна сказаў ажно ў 1957 годзе, калі ў беларускім тыднёвіку «Ніва» апублікаваў свой першы верш «Я — беларус». А потым пра тое, што ён — беларус, што мова наша беларуская, што мы павінны гэтым ганарыцца — паэт піша ў кожным сваім паэтычным зборніку. Нацыянальная тэма скразной лініяй праходзіць праз усю творчасць Віктара Шведа:

*Мы жыць не хочам у няволі.*
*І беларускай роднай мовы*
*Не адцураемся ніколі.*
*Памерці за яе гатовы...*

Віктар Швед быў пясняром беларускай вёскі на Беласточчыне. Сваёй роднай вёсцы Мора ён прысвяціў дзясяткі паэтычных радкоў. Шмат настальгічных вершаў пра вясковае маленства і юнацтва, пра тыя гады, калі беларуская вёска сапраўды была вялікай, гаманлівай, таленавітай, народнай і дружнай. Толькі сапраўдны паэт мог так апісаць вёску свайго маленства, як гэта рабіў неаднойчы Віктар Швед. Ну, скажыце, чым не хрыстаматыйныя радкі:

*Дзедаўская хата*
*Поўна экспанатаў.*
*З карэнняў калыска,*
*Гліняная міска,*
*Драўляная лыжка,*
*Двайная гладышка,*
*Святыя іконы,*
*Круглы серп зублёны,*
*Вялікія кросны,*
*Кадаўбец дзівосны,*
*Каменныя жорны,*
*Дзяжа на хлеб чорны,*
*Стары калаўротак,*
*Са снаўніцай мотак,*
*Гладка качалка,*
*Крэсіва-запалка...*

Віктар Швед са сваёй мілай спадарыняй Валянцінай быў вельмі шчырым, адкрытым і адказным у любой справе. З імі адчуваўся аптымізм, надзея і вера ў самае светлае і добрае. Аптымізм уласцівы і паэзіі Віктара Шведа. Не бяздумны, як, скажам, у вядомага героя вальтэраўскай аповесці «Кандыд» Панглоса з яго філасофіяй «Усё, што на свеце ні робіцца — на лепшае», а жыццёва дзейсны. І таму нам блізкі і зразумелы клопат паэта пра заўтрашні дзень Беларусі, роднай мовы, беларусаў:

*Таму сэрца маё суму поўнае,*
*Чаму так у нас бесталкова?*
*Чаму Беларусь рускамоўная,*
*Калі маем уласную мову?..*

Дабрата, шчырасць, інтэлігентнасць духу — вось тыя рысы, якія вызначалі характар так званага лірычнага героя Віктара Шведа. Гэтыя рысы прысутнічаюць у зборніках вершаў «Жыццёвыя сцежкі» (1967), «Дзяцінства прыстань» (1975), «Дружба» (1976), «Мая зялёная Зубровія» (1990), «Родны схоў» (1991), «Wiersze wybrane» (1997), «Выбраныя вершы» (2000), «Lata wiatr skrzydlaty» (2000), «Мае Айчыны» (2003), «Адплываем з Мора» (2010) і ў іншых. Віктар Швед ніколі не мудрагеліў у паэзіі, не «філасофстваваў» над праблемамі і чалавечым жыццём наогул, а таксама ў напісанні і пабудове саміх вершаў. Ён заўсёды быў і заставаўся прыхільнікам традыцыйнай паэзіі.

Чытаючы вершы Віктара Шведа, адчуваеш жывую душу чалавека, яго імкненне сказаць сваё запаветнае. Яго вершы абуджаюць думку і пачуццё. Паэтычны свет беларускага паэта з Беластока — гэта свет сціпласці, стрыманых пачуццяў і замілавання някідкай прыгажосцю жыцця. Паэт — у лепшых і найбольш характэрных для яго творах — настройваў нас на хвалю нейкай асаблівай спагадлівасці, даверлівай шчырасці. З ім, з яго лірычным героем прыемна было быць побач: радавацца жыццю і перажываць яго неўладкаванасць, верыць у шчасце, у будучыню, смуткаваць аб праляцелай маладосці і трывожыцца за будучыню не толькі Беларусі, а ўсяго свету, арганічна і проста быць сваім сярод людзей, сваім і пры нялёгкім успаміне, і ў хвіліну весялосці:

*А калі ў мяне стоміцца ногі,*
*Я згару ад жыццёвых трывог,*
*Хай апошняя сцежка-дарога*
*Прывядзе на бацькоўскі парог.*

Паэт заўсёды верыў людзям і жыццю. Ён стараўся прапаведаваць шчырасць і натуральнасць чалавечых узаемаадносін і заўсёды гарнуўся душою да нас, яго чытачоў, запрашаючы да ўзаемнасці і паразумення.

Віктар Швед у сваіх вершах заўсёды паэтызаў пагодненасць сэрцаў, узаемны давер і рашуча адмаўляў няшчырасць і здраду. Без суладдзя з дабратой, чалавечнасцю для яго немагчымы быў свет, разбураліся сувязі не толькі паміж людзьмі, але і паміж чалавекам і прыродай:

*Калі цябе не любяць людзі,*
*Дык ты нікога не віні.*
*Адмоўна аб табе ўсе судзяць,*
*Бо ты пазбаўлен дабрыні.*

За сваё жыццё Віктар Швед наладзіў сотні сустрэч з дарослымі чытачамі, з землякамі, са студэнтамі і школьнікамі. Найбольш у яго было літаратурных спатканняў з юнымі чытачамі. І юным чытачам, як я не памыляюся, ён прысвяціў і напісаў 9 сваіх кніг. Пра дзіцячую творчасць Віктара Шведа цікава пісалі Надзея Панасюк, Тэрэза Занеўская, Пётр Маляўка і іншыя крытыкі. Падабаюцца і мне дзіцячыя вершы Віктара Шведа. Асабліва люблю чытаць і перачытваць яго зборнікі «Дружба» (1976), «Вясёлка» (1991), «Вершы Натальцы» (1998) і «Смяшынкі» (2009). Неяк дачка Віктара Шведа Наталля сказала, што тата, «вельмі ціхая, спакойная асоба. Заўсёды ў сваім свеце...». А свет паэта вядомы — гэта новыя творы, гэта задумкі, планы, тэмы. Ён жыў літаратурай, без яе яму жылося б сумна і нецікава.

Вершы Віктара Шведа для дзяцей нас вяртаюць у краіну Дзяцінства і Маленства. Яны не даюць сумаваць ні дзецям, ні дарослым. Асабліва вершы-смяшынкі. Іх аўтар за сваё жыццё напісаў даволі шмат. Гэта вершы-дыялогі, міні-сцэнкі, міні-ўсмешкі. Альбо паэт смяшынку дзесьці чуў, альбо чытаў, а пасля яна ажывала ў яго паэтычных радках з рытмам і рыфмаю. І яны чытаюцца да сённяшніх дзён весела, проста і лёгка. І гэтыя вершы-смяшынкі Віктара Шведа на самыя розныя тэмы: сям'я, школа, вуліца, сяброўства, прырода, любоў да кнігі, да мастацтва. Вось верш пра хлопчыка Мішку, які прыехаў у кнігарню купіць цікавую кнігу. Аўтар у вершы, на маю думку, высмейвае больш ветлівую прадаўшчыцу і ганарыцца кемлівасцю хлопчыка. Другая страфа ў вершы гучыць так:

*— Лёгкую ці цяжэйшую*
*Выбраць табе, каб ведаў?*
*— Вага не найважнейшая,*
*Прыехаў я веласіпедам.*

Вершы-смяшынкі Віктара Шведа дапамагаюць лепш зразумець маленькага чалавека, звярнуць увагу на эстэтычнае і этычнае выхаванне дзяцей, на арганізацыю іх гульняў і захапленняў, вучобу і адпачынак. А самае галоўнае — аўтар пакінуў чытачам магчымасць глянуць на свет дзіцячымі вачыма, але цяпер ужо дарослага, з багатым жыццёвым вопытам, прайсціся да сябе самога сцежкаю памяці і ўсміхнуцца голасна:

*Бацька вучыць:*
*— Сыночак,*
*Чаму ясі і балбочаш?*
*У памяці запішы:*
*Калі ясі — не брашы.*
*Нават сабака Лыска*
*Не брэша над поўнай міскай.*
*— Але сабака, тата,*
*Не мусіць есці шпіната.*

Для многіх вершаў Віктара Шведа характэрны жарт і дасціпная ўсмешка, іронія.

У Віктара Шведа найбольш напісана вершаў-смяшынак пра школу. Пра ўсе ўрокі і прыгоды, узаемаадносіны настаўнікаў і вучняў, пра двоечнікаў і гультаёў, пра бацькоў і іх дзяцей-школьнікаў і г. д. Зборнікі паэта для дзяцей — гэта школа дабрыні, справядлівасці, гуманізму. Школа прыгажосці роднай беларускай мовы, беларускага гумару, да якіх ён ставіўся з вялікім захапленнем, як і да ўсёй беларускай літаратуры і творчасці.

У 2015 годзе ў Беластоку выйшаў першы том успамінаў, згадак і вершаў Віктара Шведа «З Мора ў горад». Ён складаецца з дзесяці раздзелаў. У іх аўтар апісаў свой жыццёвы і творчы шлях, пакінуў успаміны пра Уладзіміра Караткевіча, Максіма Танка, Васіля Белаказовіча, Мар'яна Пецюкевіча, Янку Жамойціна, Уладзіміра Казберука, Серафіма Андраюка, Аляксея Карпюка, Міхася Забэйду-Суміцкага і іншых вялікіх асобаў Бацькаўшчыны. Другі том «З горада ў Мора» (2020) склалі артыкулы розных гадоў пра беластоцкіх і варшаўскіх беларусаў, пра іх кнігі і даследаванні, пра тыя беларускія падзеі і культмасавыя мерапрыемствы, якія пасля вайны адбываліся ў Польшчы.

Пра творчасць беларуса-песняра з Беластока Віктара Шведа можна разважаць доўга. Бо за жыццё ім было перажыта, напісана і надрукавана вельмі шмат. Паэт заўсёды даражыў творчай радасцю, верыў у беларускае слова, яго вялікія магчымасці і дзейсную сілу. Ён моцна любіў Беларусь і свой народ, а беларусы паважалі і любілі яго.

# «Трэба развітвацца з ілюзіямі»

## Гутарка з Данутай БІЧЭЛЬ пра Аляксея КАРПЮКА

*Я стаю на сваёй зямлі, ды яшчэ каб не гаварыў на ёй таго, што думаў? Навошта тады жыць?!*

***Аляксей Карпюк***

*— Шаноўная пані Данута, набліжаецца 105-годдзе з дня нараджэння Аляксея КАРПЮКА. Вашая прадмова да яго кнігі эсэ, апавяданняў, дзённікаў «Развітанне з ілюзіямі», якая выйшла ў 2007 годзе, мае назву «Сэрца людское яднаецца з сэрцам сусвету...» Як рыхтавалася гэтая кніга? Чаму абралі такія словы для загалоўка?*

— Я ў той час была захоплена філасофіяй Генры Наўвэна, таму і ўзяла гэты вобраз. А кнігу «Развітанне з ілюзіямі» Аляксей Нічыпаравіч падрыхтаваў і здаў у выдавецтва, будучы цяжка хворым. У Бараўлянах хірург-анколаг не хацеў рабіць аперацыю на страўніку, бо Карпюк мог не вытрываць з адным лёгкім. Васіль Быкаў сказаў, што калі ён з адным лёгкім пражыў такое змагарскае жыццё ад вайны да 1991 года, то варта рызыкаваць. Так падаравалі яму год жыцця. За гэты год ён і склаў кнігу «Развітанне з ілюзіямі» і здаў у выдавецтва. Кнігу падрыхтавалі да друку, але цэнзура забараніла. Набор рассыпалі. Галоўны рэдактар выдавецтва Серафім Андраюк, зямляк і сябра Аляксея Карпюка, забраў карэктуру і аддаў Іне Анатольеўне.

У 2007 годзе ў Гародні з'явіўся такі праект «Гарадзенская бібліятэка», каардынатарам яго быў былы студэнт Іны Анатольеўны. Ён і прапанаваў выдаць кнігу Карпюка... А Іна Анатольеўна папрасіла мяне напісаць уступнае слова: ёй спадабалася маё эсэ «Васіль Быкаў і Аляксей Карпюк» у кнізе «Хадзі на мой голас». Але Іна Анатольеўна кнігі «Развітанне з ілюзіямі» не дачакалася, яна памерла 19 верасня 2008 года...

*— Гародня ва ўспрыманні беларусаў непасрэдна звязана з пісьменнікамі Васілём Быкавым, Аляксеем Карпюком, Уладзімірам Караткевічам, з Вамі, пані Данута. Як Вы пазнаёміліся з Карпюком, як бы Вы ахарактарызавалі гэты час у сваім асабістым жыцці і культуралагічным жыцці Гародні?*

— Да таго, як я паступіла ў пединстытут імя Янкі Купалы, я вучылася ў Лідскай педвучэльні. Выкладчыца беларускай літаратуры на ўроку нам чытала аповесць Карпюка «У адным інстытуце». Муж нашай выкладчыцы вучыўся разам з Аляксеем Карпюком. Я ведала, што ў Гародні жыве такі пісьменнік.

На першым курсе Аляксей Нічыпаравіч прыбег у нашу групу перад самым званком і ўручыў старасце групы Вандзе Шоцік вялізную папку са сваім новым творам. Маўляў, вы пачытайце, а пасля абмяркуем — што я не так напісаў, а я ўлічу вашы заўвагі. Згодны? Гэта ў яго такая хітрасць: заваблiваць чытачоў да таго, як выйдзе кніга...

Гародня ў той час была заходнебеларускім горадам высокай культуры, дзе ўзаемна ўплывалі архітэктура, мастацтва, музыка, літаратура; усе ўсіх ведалі, калі гаварыць пра творчую інтэлігенцыю. Польскага, габрэйскага было болей, чым беларускага. І расейскага засталося шмат. У Гародні быў заапарк, які стварыў Ян Каханоўскі. Быў батанічны сад! Беларускія аўтары яшчэ не адчувалі ніякага дыскамфорту. Ніхто нас не папіхаў і не прыгнятаў.

*— Уладзімір Калеснік пакінуў кранальныя ўспаміны пра Аляксея Карпюка, з якім звязвала яго шчырае сяброўства. Ці была ў Вас нагода назіраць іх стасункі падчас сустрэчаў, праявы сяброўства такіх людзей, правераных вайною на сябоўства і вернасць?*



Аляксей КАРПЮК

— На жаль, я пра гэта ведала толькі з аповедаў, з літаратуры... Толькі як хавалі Аляксея Карпюка, Уладзімір Калеснік у развітальнай прамове ў Доме культуры сказаў пра сябра юнацтва з горыччу і павагай. А пасля памінальнай вячэры, калі ўсе разышліся, Калеснік чакаў цягнік на Брэст, а я жыву недалёка ад кватэры Карпюкоў, — Іна Анатольеўна мне пазваніла, каб я падышла паразмаўляць з Калеснікам... Я і Алесь Чобат паслухалі яго... Ён тады выгаварыўся. Мы правялі яго на цягнік. Калеснік мужна перанёс страту сябра юнацтва і ўсяго жыцця.

*— У прадмове Вы пішаце, што А. Карпюк «прыдумаў сабе "хобі" — калекцыянаваў кіі. Вялікім даверам было заслужыць у Карпюка ў падарунак бамбукавы кій». Што гэта за такое своеасаблівае хобі, і ці былі Вы ўладальніцай «бамбукавага кія» Аляксея Карпюка?*

— Ён зрабіў гэта сваім хобі, але на самай справе ён хадзіў з кіем, бо жыў пасля вайны з адным лёгкім і без чатырох рабрын. Іна закахалася ў Алёшу, калі ўбачыла яго на пляжы — на плячах чорная яма, абцягнутая скурай... Нават у музеі, які я збірала, такога экспаната, як бамбукавы кій, не было... Але ён іх прывозіў са сваіх падарожжаў, гэта праўда, некаму рабіў такія падарункі...

*— А. Карпюк у Гародні працаваў на шматлікіх пасадах. У чым, на Вашую думку, праяўляўся своеасаблівы тэмперамент, арыгінальны характар пісьменніка, паклікантага да творчай працы?*

— Карпюк хацеў жыць для людзей. Калі яго звольнілі з пасады загадчыка райана ў Сапоцкіна за выступленне на сходзе, а пасля на пасадзе дырэктара сямігодкі ў вёсцы Біскупцы Ваўкавыскага раёна было болей вольнага часу, ды нядобразычліўцы пакеплівалі з яго, што ён змагар-няўдачнік, — тады Карпюк вырашыў: давай, напішу кніжку пра ўсё гэта. І пісьменніцкая справа яму спадабалася. Пасля ён знаходзіў сабе такую пасаду, каб на працы можна было пісаць. На гэта трэба было мець і талент, і тэмперамент, і хітрасць. А ўсе гэтыя рысы характару ў яго былі, як ён піша пра сябе сам: «Я нецярплівы, самаўпэўнены, рэзкі, упарты, лёгкаранімы, нясціплы, самалюбівы, прамалінейны, некамунікабельны, скрыты, схільны перабольшваць ды кідацца ў крайнасці; цярпець не магу розных канонаў, рэжымаў, рэгламентаў і агульнапрынятых норм...» Ці не ідэальны вобраз пісьменніка?!

*— Вы сказалі, што духоўным лідэрам гарадзенскага рэгіёну быў Аляксей Карпюк. Чаму так сталася? Якія прыродныя ўласцівасці, рысы характару вызначылі яго як таленавітага арганізатара, медыятара паміж людзьмі сваёй пісьменніцкай суполкі і прадстаўнікамі іншых нацыянальных культур і літаратур? Што Вам прыгадваецца ў гэтым кантэксце з удзелам Аляксея Карпюка?*

— У Аляксея Нічыпаравіча было жаданне перастварыць Гародню ў культурны цэнтр, як Львоў ва Украіне, як Кракаў у Польшчы... Таму ён усіх «цягнуў за вушы», маладых аўтар напісаў некалькі вершаў ці адно апавяданне — і ён ужо стаў цікавым для Карпюка. А гэта так патрэбна кожнаму аўтару. І маю першую кніжачку вершаў Іна Анатольеўна з рукапісаў аддала некаму на друкарку і заплаціла сваімі рублямі, а Аляксей Нічыпаравіч завёз і аддаў Анатолю Вялюгіну, той уклаў, адрэдагаваў — і мне прывезлі першую ластаўку, назву якой таксама прыдумаў Анатоль Вялюгін — «Дзявочае сэрца».

Аляксей Карпюк па сваіх справах ездзіў у Яраслаўль, заадно знайшоў той адрас, дзе жылі сваякі Максіма Багдановіча па бацьку. Там заставаўся куфар з дакументамі і рознымі дробнымі рэчамі. Карпюку аддавалі ўвесь куфар. Але ён не мог яго забраць, бо спецыяльнага транспарту не меў. Таму ён выбраў тое, што мог прывезці ў руках: дакументы — метрыкі хросту і смерці сям'і Багдановічаў, фатаграфіі гродзенскага перыяду жыцця, шкатулку, якую Адам падараваў Марыльцы, лыжачку для гарбаты, папяровую жабку...

У 1981 годзе Беларусь святкавала 90 гадоў з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Я, паэтка і настаўніца, на гарадскім вечары, прысвечаным гэтай падзеі, чытала даклад. Гродзенскія самадзейныя мастакі да юбілею паэта арганізавалі выставу. Сярод розных твораў мастацтва на выставе экспанаваўся цудоўны габелен сям'і ткачоў Шунэйкаў «Крыніца жывой вады», — вытканы вобраз паэта ў поўны рост... Калі выставу закрылі, мастакі прынеслі свае творы ў дом Элізы Ажэшкі, дзе было аддзяленне Саюза пісьменнікаў, якім кіраваў Аляксей Карпюк.

Гродзенская творчая інтэлігенцыя адзінадушна заявіла пра тое, што ў Гародні павінен быць Музей Максіма Багдановіча! Аляксей Нічыпаравіч пайшоў з гэтай прапановай да дзяржаўных уладаў горада.

А калі пачалася гарбачоўская перабудова пасля 1985 года, нацыянальная дыяспара пачала ствараць свае аб'яднанні, то Аляксей Карпюк не проста быў ініцыятарам гэтых аб'яднанняў, ён знаходзіў актыўных людзей, афармляў патрэбныя дакументы. Так ён дапамагаў стварэнню аб'яднанняў палякаў, літоўцаў, татараў, габрэяў. Арганізоўваў ініцыятыўныя групы, знаходзіў памяшканні для іх працы. І ўсіх пісьменнікаў уцягваў у гэтую справу.

*— Ці даводзілася Вам назіраць за адмысловымі прыгодамі «авантурыста» Аляксея Карпюка падчас падарожжаў па беларускіх мясцінах? Што Вам запомнілася?*

— Аднойчы Аляксей Карпюк вырашыў паказаць Ларысе і Янку Геніюшам зуброў у Белавежскай пушчы. Узяў і мяне, тым больш, што было месца ў машыне. Маршрут распрацаваў сам Аляксей Карпюк, прынамсі, Камянецкую вежу мы таксама ўбачылі. Але галоўнае — пушча і зубры. Заходзіць у нетры пушчы нам не дазволілі, а толькі прагуляцца па дарозе і паглядзець на зуброў за высокім плотам. Зубры стаялі далёка, павярнуўшыся ў глыбіню лесу, на нас не звярталі ніякай увагі. Тады Аляксей Нічыпаравіч пераскочыў праз плот і пайшоў у бок звяроў... Яны падпусцілі яго вельмі блізка. І тут галоўны важак як павернецца і як рване да Карпюка, ён таксама хутка з'арыентаваўся — і наўцёкі... Карпюк пераскочыў праз той магутны плот — а зубр з усяго разбегу ўрэзаўся рагамі ў слуп... Што перажылі мы?! Доўга не маглі вымавіць слова. Не ведаю, як вытрывала сэрца Ларысы Антонаўны...

*— Як прыгадваюцца Вам сумесныя падарожжы разам з Аляксеем Карпюком, Васілём Быкавым падчас сустрэчаў з чытачамі? Што было Вам асабіста адметнага ў праявах такіх неардынарных асобаў, таленавітых аўтараў?*

— Вядома, мы шмат выступалі, нас запрашалі розныя арганізатары, людзей збіралі па-рознаму, пераважна, пасля працы. Васіль Уладзіміравіч стрымана апавядаў пра сваю творчасць, і рэдка знаходзіўся чалавек, які выцягваў яго на глыбокую размову пра вайну і літаратуру. Тады Васіль, як жораў, рабіў своеасаблівы рух галавою і пачынаў гаварыць. Карпюк называў свайго сябра белым жураўлём...

Аляксей Нічыпаравіч любіў і ўмеў разварушыць залу. Ён апавядаў пра рэальных людзей, якія былі героямі яго твораў, любіў, каб задавалі пытанні з залы. Пытанні прысылалі на лістках паперы, ён гэтыя лісткі захоўваў... Часамі сам даваў у рукі якому-небудзь слухачу запісачку. А мы з Васілём Уладзіміравічам, жартуючы, падавалі яму запіску з пытаннем: якія жанчыны яму больш падабаюцца — бруннеткі ці бландынкі? Мы выступалі і ў малых памяшканнях, і ў вялізных залах перад усёй школай ці вучэльняй. Карпюк не баяўся такіх сустрэчаў.

Праўда, на мітынгах яму выступаць не давялося. Але аднойчы ён запрасіў мяне на дыскатэку ў Палац культуры. Я спытала ў яго, ці ўяўляе ён, куды мы пойдзем... Але ён думаў, што гэта звычайная вечарынка, як на вёсцы ці ў той Наваградскай педвучэльні, дзе яму завуч і дырэктар забаранялі таньчыць танга. Мы ўвайшлі ў гэты гул, чад, дым і пыл. Дзі-джэй спыняе музыку, аб'яўляе выступленне пісьменніка і героя ордэна Wirtyti Militari Аляксея Карпюка... А яны, узбуджаныя, не хочуць слухаць, перабіваюць, смяюцца. Тады я пачынаю дэкламаваць свае жартоўныя вершыкі: «Лузалі жалуды дзікі, ішлі дубровай дзяцюкі ды пачалі ламаць сукі. А мудры дзік раскрыў клыкі ды кажа — у панядзелак вяртаюцца ад дзевак усе на свеце дзяцюкі, не заступаюць ім дзікі, а вы ламаеце сукі, дык вы дзічэй, чым мы, дзікі...». Моладзі як бы гэта і спадабалася, яны нават ляніва папляскалі. Нарэшце чытаю той верш, які дзяўчаты дэкламавалі на школьных вечарах са сцэны: «Пад казачным дубам над Нёманам сінім касец прызнаваўся ў каханні дзяўчыне...» На гэтым спыняемся. Ніякіх размоваў, ніякіх пытанняў... Мы вяртаемся на тралейбусе дадому, Карпюк разгублены, я маўчу...

*— Вы напісалі, што і Вам, «і іншым, хто быў, хто быў і не адбыўся, Карпюк хацеў, каб усе адбыліся...» Як гэта выявілася на самай справе?*

— Карпюк быў нашым добрым бацькам. Усе бытавыя справы ён узваліў на сябе. Уладкоўваў на працу, хадзіў па выканкамах і «выбіваў» кватэры. Тым, хто працаваў у раёнах, калі пажадае пераехаць у Гародню, дапамагаў знайсці працу і часовае жыллё. Дапамагаў надрукавацца ў часопісах, пасля выдаць першую і наступныя кнігі. Тут я толькі магу прывесці прыклад, а гэта ж атрымліваецца вялікі спіс, але цяпер усіх не памятаю. Зборнічак вершаў дзевяцікласніка Анатоля Брусевіча «Дуэль» Аляксей Карпюк выдаў за кошт Таварыства беларускай мовы ў 1992 годзе, але не ўбачыў таго зборнічка... Даставаў пуцёўкі ў дамы літаратараў... Уладкоўваў у спецпаліклініку...

Заканчэнне на стар. 4 »

# «Трэба развітвацца з ілюзіямі»

## Гутарка з Данутай БІЧЭЛЬ пра Аляксея КАРПЮКА

**« Заканчэнне. Пачатак на стар. 3**

*— Аповесцю «Данута» Аляксея Карпюка захаплялася студэнцтва 70 — 80-х гадоў. Ды і сёння гэтае імя і твор пісьменніка выклікае цікавасць не толькі ў чытачак прозы Карпюка. У чым сакрэт гэтага імя і гэтага твора пісьменніка?*

— Мяне бацькі назвалі гэтым іменем таму, што ў нас былі кнігі. Зімовымі вечарамі пры лямпе тата чытаў трылогію Генрыка Сянкевіча «Ogniem i mieczem» — там малы рыцар пан Валадыёўскі быў закаханы ў Данусю… Гэтае імя, папулярнае ў Польшчы, Літве і Беларусі, як бы яднае нашы сумежныя народы ў адну сям'ю. І Аляксей Карпюк выбраў імя сваёй гераіні, разумеючы гэта.

…Мая сястра Рэня трымала кнігу «Данута» ўвесь час на стале, перачытвала яе. Мусіць, гэтую кнігу чыталі толькі дзяўчаты? Вядома, прыцягальны сюжэт твора: вясковы хлопец Янка Барташэвіч трапіў у Вільню і нечакана закахаўся ў дачку генерала… І каханню няма перашкодаў — яна адказвае яму ўзаемнасцю. Безнадзейнае, цудоўнае, светлае пачуццё, на якім трымаецца род людскі.

І Карпюк шукаў імя сваёй гераіні, нарэшце спыніўся на імені Данута. Цяпер варта паразважаць аб прататыпе і пра тое, як было на самай справе там, у Вільні, бо гэта надта цікава. Карпюк паехаў у Вільню і паступіў на вячэрняе аддзяленне гімназіі як пераростак, а трэба было плаціць за вучобу. Ён знайшоў сабе жыллё на вуліцы Паплаўскай, 31-Б, у доме краўца, гаспадыня выдзеліла яму пусты пакойчык за тое, што ён будзе насіць ваду з яра. А на гэтай вуліцы, бліжэй да цэнтра, дзе быў вадаправод, стаяў дом генерала. А паміж гэтымі дамамі стаяў дом начальніка пошты, у якога былі дзве прыгожыя дачкі… Карпюк закахаўся ў малодшую Ядзю, яна вучылася ў ліцэі. А Карпюк, каб з нечага жыць і плаціць за навуку, уладкаваўся ў той ліцэй пасыльным. Каханне было… Аднак Данута ў творы пісьменніка — гэта дачка генерала.

*— Шлях аповесці «Данута» да чытача быў няпростым. Пра гэта распавядае сам аўтар у кнізе «Развітанне з ілюзіямі». Шмат разоў (34!) перапісваў «Дануту» для выдання ў двухтомніку. «У тыя дні, калі заканчваў перараблядь чарговы варыянт аповесці, кожны раз пачынала ў мяне ўзнімацца тэмпература», — прызнаецца аўтар у эсэ «Перыпетыі пошукаў». Раскрывае жыццёвую і мастацкую праўду гэтага твора, тлумачыць, чаму канец аповесці такі трагічны: «Колькі я ведаў харошых дзяўчат, якія таксама, як мая задуманая гераіня, склалі свае светлыя галовы за вялікую справу».*

*Уладзімір Калеснік па-сяброўску рабіў падказкі празаіку Аляксею Карпюку, крытычна ацэньваў ягоныя творы, высока ацэньваў ягоныя ўдачы. Разважаючы пра шлях Карпюка як аўтара аповесцяў да аўтара раманаў, адзначыў, што «найбольш рашуча стварае ўражанне раманнасці "Каранёў" мова». Паказальная такая характарыстыка Калесніка моўнай стыхіі гэтага твора: «Карпюк бярэ дыялекты сярэдняга Наднямоння ды адыходзіць ад беларускіх рэк ажно пад Беласток. І дзіўная з'ява: Нёман аказваецца тут не воднаю, а моўнаю артэрыяй беларушчыны…» Ці даводзілася Вам чуць жывую гаворку, матчыную мову Карпюка?*

— Марыя, я чытаю вашае пытанне і ўсміхаюся. Карпюку прыходзілася свае творы, праз капрызы тагачасных рэдактараў, перапісваць не зусім жывою мовай… Але да пэўнага часу… Ён пра гэта дасціпна кажа: «Рэдагавалі па прынцыпу: з сасны зробім тэлеграфны слуп!» Тым не менш, Уладзімір Калеснік высока ацэньвае моўную стыхію яго прозы, і нават сувязь мовы з



Данута БІЧЭЛЬ, Васіль БЫКАЎ, Аляксей КАРПЮК. Гародня. 1964 г.

прыродай, сярод якой нарадзіўся ды вырас пісьменнік…

Калі Аляксей Нічыпаравіч напісаў раман «Карані», сабраў у зале-музеі Элізы Ажэшка гродзенскіх літаратараў на абмеркаванне свайго, яшчэ не выдадзенага, рамана. Неяк жа аўтар здолеў на друкарцы зрабіць столькі асобнікаў пад капірку! Усе, хто знаходзіўся ў зале, раман прачыталі.

Вясковы чалавек Лаўрэн уступіў дзецям, якія жылі ў горадзе, — прадаць хату і купіць машыну. Лаўрэна сыны забралі ў горад. Але ён жыць у горадзе не змог. Вярнуўся на хутар, стомлены, заснуў і замерз на сваім панадворку.

Было шмат прапаноў ад маладых літаратараў… І адзін сказаў, што ён у Масалянах быў на практыцы, там не так размаўляюць… Карпюк выслухаў усе заўвагі, падзякаваў і сказаў, што ён усе заўвагі ўжо ўлічыў і кнігу здаў у выдавецтва. А наконт мовы ў Масалянах: і Масаляны ў рамане, і мову ён выдумаў са свае галавы.

А размаўляў Карпюк жывою мовай Беласточчыны. Дарэчы, гэтая мова захавалася і квітнее на Падляшшы па сёння. У мове Падляшша шмат паланізмаў, русізмаў і ўкраінскіх словаў… Гэтым яна і багатая. Калі прыводзіць прыклады, то Карпюк вымаўляў неяк так: спяшаўсо, баяўсо. А як усе пісьменнікі, Карпюк усё жыццё збіраў словы роднай мовы. Неяк патэлефанаваў мне і пытаецца: якія масці коней я ведаю, — і не чакаючы, што я скажу, пералічыў: белы, гнеды, каштанавы, вараны, буланы, сівы і сівы ў яблыкі, мышасты, буры. А ў мяне ёсць верш: «Конік гняды ў яблыкі наворвае бульбачку, якую капаю, якую не садзіла…»

*— Ці пашчасціла Вам пабываць у родных мясцінах Аляксея Карпюка, ці бачылі Вы родную сядзібу Карпюкоў? Калі і як гэта адбылося? Якія вобразы, пачуцці засталіся ў памяці?*

— Мы паехалі па запрашэнні Беластоцкага беларускага таварыства на літаратурную сустрэчу ў 1987 годзе. Тады не трэба было візы, толькі запрашэнне. Пасля сустрэчы мы з Аляксеем Карпюком паехалі ў Бельск-Падляскі, у Гарадок, дзе некаторыя мужчыны на вуліцы пазнавалі Алёшу Карпюка.

Вельмі сумнае відовішча ўяўляла сабой Страшава (яго родная вёска). Вялізны двор, старая расахатая сасна перад акном і яшчэ некалькі паўзасохлых дрэваў насупраць дзвярэй. Хата вялікая. Аляксей патограў клямку. Хата была замкнёная. Абышоў кругом хаты. Разгублена сказаў: «Ну, што ж, некуды пайшлі… няхай жывуць людзі». Наводдаль віднеўся лес і балота. Ніякай вёскі Страшава я не бачыла.

А яшчэ мы наведалі Мастаўляны (не трэба блытаць з Масалянамі!), дзе нарадзіўся Кастусь Каліноўскі. На пагорку, на тым месцы, дзе стаяла хата бацькоў Веранікі і Сымона, у якіх было так шмат дзяцей, расла вялізная сасна. Але Мастаўляны — гэта і ткацкая фабрыка, — Сымон займаўся ткацтвам льняных вырабаў… Гэта вялізная вёска, якой мы таксама не бачылі… (Аб усім гэтым я нядаўна прачытала ў кнізе Васіля Герасімчыка «Канстанцін Каліноўскі: асоба і легенда».) Карпюк захацеў наведаць магілкі — на такім гарыстым месцы. Там на помніках было шмат надпісаў з прозвішчамі Карпюк і Каліноўскі… У мястэчку Ялоўка, дзе быў ахрышчаны Кастусь Каліноўскі, мне вельмі цьмяна ўспамінаецца ўваход з вуліцы ў драўляны касцёл, дзверы былі зачыненыя. Карпюк пастукаў у адну хату, папрасіў напіцца вады. Гаспадар вынес вады ў конаўцы і спытаў, адкуль мы прыехалі, а калі пачуў, што з Гародні, здзівіўся: «Гэта ж трэба, прыехалі з-за граніцы, а размаўляеце так, як мы».

*— У чым, на Вашую думку, падтэкст, шматграннасць кнігі Аляксея Карпюка «Развітанне з ілюзіямі»? З якімі ілюзіямі варта развітацца сучаснаму чытачу, беручы ў рукі кнігі Аляксея Карпюка?*

— Я перачытваю цяпер гэты твор, я сама, малая, удзельнічала ў гэтых жа падзеях… Саветы, камуністы ў сваіх газетах надта хвалілі савецкі лад, што там усе шчаслівыя. Людзі ў Заходняй Беларусі ўспрымалі з даверам іхнюю ілжэпрапаганду. Мае Біскупцы былі выключэннем: не верылі і не прымалі савецкай маны. Але знайшоўся адзін Хвёдар, які насыпаў бітага шкла ў муку асаднікам, якіх вывозілі…

Я з цікавасцю прачытала пра тую тэхніку, якую пакідалі савецкія войскі, адступаючы, як ён апісвае славутую «трыццацьчацвёрку», гэтыя танкі стаялі пакінутыя на шашы… Нямецкая каманда іх пранумеравала, каля Ваўкавыска стаяў нумар 500. На нашым гасцінцы пакінулі друкарню… Я збірала гэтыя літаркі, малая, гуляла з імі. Усе назіранні Карпюка пра падзеі перавароту дакладныя, што мне гэта ўціснуць у адказ на пытанне цяжка, проста трэба чытаць і перачытваць…

Пасля таго, як Аляксей Карпюк уцёк з лагера смерці Штутгаф, лепей бы яму ўсё далейшае жыццё пры саветах сядзець ціха… Але ж ён ціха сядзець не ўмеў. Памятаю, як яны, Карпюк і Быкаў, выступалі на пісьменніцкіх з'ездах, прыехаўшы дадому, пасылалі мяне да сакратаркі па ідэалогіі, каб даведацца, які водгук данёсся да Гародні пра іхнае «геройства». Самі чакалі мяне дзе-небудзь непадалёку…

Пачалася перабудова… І ў Карпюка з'яўляюцца новыя ілюзіі: цяпер то пачнецца ўсё па-людску! Будзем жыць у вольнай краіне. А яму нейкі стары камуніст зноў ставіць падножку, што ён не проста так уцёк з таго лагера смерці, маўляў, ён быў здраднік, яму за гэта плацілі… А маці са праўды высылала сваім сынам і пасылкі, і грошы. Іх прымушалі распісацца ў ведамасці… Карпюк упарта на партыйных сходах і пленумах са старымі энкэвэдыстамі змагаўся, адстойваў сваю праўду. А яго выключылі з КПСС як авантурыста, здрадніка і нацыяналіста. Пасля гэтага, звычайна, такіх выключалі і з Саюза пісьменнікаў. Карпюка выратаваў першы сакратар ЦК КПБ Машэраў, да якога Карпюк праврваўся праз ахову ў Оперным тэатры. Машэраў выслухаў Карпюка і паабяцаў разабрацца, і слова стрымаў. На пленуме ЦК КПБ Карпюка апраўдалі і вярнулі яму партыйны білет. Але старыя камуністы не спыніліся на гэтым, пачалі пісаць у часопіс «Политический собеседник»… і Машэрава яны абзывалі нацыяналістам… Толькі незадоўга да смерці Карпюка знайшоўся адвакат, змог выйграць працэс і ачысціць добрае імя нашага слаўнага пісьменніка. А незадоўга да смерці Аляксей Карпюк выйшаў з камуністычнай партыі.

А цяпер я пра гэта так думаю, што развітацца трэба з усялякімі ілюзіямі, верыць і любіць Бога і любіць родную зямлю, якую даў нам Бог.

*— Дзе знайшоў апошні спачын Аляксей Карпюк? Як прыгадваецца Вам апошняе развітанне з ім?*

— Пахавалі Аляксея Карпюка на могілках каля «Азота», на такой горцы, дзе пахаваныя паважаныя людзі Гародні. На пахаванні прысутнічала шмат людзей, былі прадстаўнікі ўсіх нацыянальных меншасцяў, былі і прадстаўнікі ад улады.

*— Думаю, многім прыйдзецца да разважання Вашае выслоўе пра тое, «як важна пражыць свой час з чыстым сэрцам і, адступіўшы ў цень, дазволіць іншым згарэць на тым самым вогнішчы. Сэрца людское яднаецца з сэрцам сусвету…» Гэта і пра Карпюка, і пра сучасную творчую эліту?*

— Нічога не магу сказаць пра сучасную творчую эліту, бо не ведаю, дзе яе шукаць. Яна цяпер знаходзіцца ў нейкім вегетатыўным стане, як бульба ў кошыку. А пакаленне Аляксея Карпюка, Уладзіміра Калесніка, Янкі Брыля, Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча пакінула нашчадкам магутную літаратурную спадчыну…

*— Як уганаравана імя Аляксея Карпюка ў Гародні, горадзе, які стаў для пісьменніка горадам натхнення, культурнай сталіцай Беларусі?*

— Родныя дзеці Аляксея Карпюка, з дазволу ўладаў горада, у 2019 годзе ўстанавілі шыльду на вуліцы Элізы Ажэшка, на доме № 49. Ёсць і вуліца Аляксея Карпюка. І кнігі: том у «Беларускім кнігазборы» і «Развітанне з ілюзіямі» ў «Гарадзенскай бібліятэцы».

*— Вы прысвяцілі верш Аляксею Карпюку. Традыцыйна нашыя гаворкі заканчваюцца Вашымі паэтычнымі творамі. Як на гэты раз?*

— Аляксей Карпюк — гэта добры чэрствы хлеб, — так любіла казаць Ларыса Геніюш… Неяк гэты магутны чалавек, ад якога так многа добрага мне ў жыцці перапала, не натхніў мяне на магутны верш. Я прапаную верш, на які мяне натхніў Максім Багдановіч сваім вершам «Пагоня». Толькі ў Максіма гэта змагарскі верш, правераны часам і гісторыяй, а мой верш малітоўны:

### Сэрца свету — у Вострай Браме!

*Паміж зорак і летуценняў*
*Маці Божая ў зорным адзенні*
*адчыняе сваё залатое акно —*
*ўсіх, хто ёсць і хто быў даўно,*
*прытуляе да Сэрца рукамі…*
*Душы поўныя з берагамі…*
*Вочы-Сэрца Сынава з намі —*
*Сэрца свету — у Вострай Браме!*

*Слова з песні выкінуць нельга.*
*Вострыя човен у прысаку неба.*
*Усё лятуць і лятуць анёлы…*
*Пілігрымаў склікаюць касцёлы.*
*Скроні Маці святой у кароне…*
*Дзве кароны ўпрыгожваюць скроні!*
*Мы — народ вастрабрамскі, вольны!*
*Мы знішчаем малітвамі войны!*

*Усё вышэй па прыступках драўляных,*
*у ружанцовыя ружы прыбраных, —*
*несмяротнаю сілай паўстанем*
*у вясёлкавым сонечным ззянні…*
*За сусветамі, за небакраем —*
*словы… знічкамі словаў згараем.*
*Маці Божая нас прытуляе*
*да нябёсаў у Вострай Браме…*

*16 лістапада 2024*

***Гутарыла Марыя НОВІК***

# Чыстыя нябёсы



Рычард БЯЛЯЧЫЦ



Фота Стаса ПРУДСКАГА

## Апроч цябе

*Сяліўся ў кронах час птушыны,*
*на Нёмне чэрвень выткаў штосьць.*
*Цвіце па травах канюшына,*
*і маргарыткаў вочкі — скрозь.*

*Варон заспоіць вецер лёгкі.*
*І ты ў ціхуткай старане*
*прасуеш белыя аблокі,*
*не заўважаючы мяне.*

*Калі наш дзень апусціць грэбень,*
*не дакарай і не суроч.*
*Нікому верш мой непатрэбен,*
*Апроч цябе,*
*цябе апроч.*

*Ты праз стагоддзе пачытаеш*
*радкі эпосе дзіўнай той.*
*І будзе помніць веха тая*
*душы настрой*
*і голас твой.*

## Школка

*Нібы з крыніцы п'ю вадзіцы,*
*ізноў вярнуўшыся здалёк.*
*Як шмат было вас, а ўсё сніцца*
*мне петушыны той званок.*

*Чыесьці стомленыя рукі*
*рупліва гладзілі зямлю,*
*Упершыню каб свежа, гулка*
*сказаць кахаю і люблю.*

*Надзеяй прысыпалі туі,*
*каб падымаліся ў гады.*
*Ніхто пра восень залатую*
*не думаў, пэўна што, тады.*

*Яна ж прыйшла, пад вокны села,*
*у час няветлівы такі.*
*І наша школка, пасівелай,*
*глядзіць, як маці, з-пад рукі.*

*Там штосьці сталася іначай.*
*Не зразумець, напэўна, мне,*
*Што школцы трэба смех дзіцячы,*
*усмешка юная ў акне.*

*Ніхто яе тут не прывеціць,*
*бы тут канчаецца зямля.*
*Стаіць, забытая, у свеце*
*чыясьці школка*
*і мая.*

## Аднагодак

*Ці зламаны ветрам ён,*
*ці пярун знявечыў.*
*Кучаравы жоўты клён*
*думае аб нечым.*

*Бы падміргвае вясне,*
*сонцу, дзіўнай поўні*
*кучаравы клён,*
*і мне*
*на душы спакойней.*

*Чуе грак вясновы пах*
*свежы і зялёны.*
*Ты ж не пройдзеш міма так,*
*мне ўсміхнешся,*
*клёну.*

*Завіточкаў не крані,*
*весялінак гордых.*
*Клён з палацавай радні,*
*князёў аднагодак.*

*Кропля з воблака-ліста*
*зноў гаючай стане.*
*Косы вёснаў ён сплятаў*
*у матыў спаткання.*

## Хрыстос

*Не ведаю, што і люблю —*
*то сонца, то хмары ліхія.*
*Часцей і часцей на зямлю*
*сыходзіць аднекуль стыхія.*

*І хто тут каго перамог,*
*сягоннящняе ці былое?*
*Не ведае, пэўна што, Бог,*
*дзе вынайсці краю спакою?*

*Сягоння Хрыстос уваскрос,*
*высокі, магутны, лагодны.*
*А самы шчаслівы Хрыстос,*
*які прызямліўся ў Гародні.*

## Перамога

*Быў кожны каласок, пагорак рад*
*святлу паспешліваму, гулу.*
*Каля стагоддзя цэлага назад*
*зямля мая*
*напоўніцу ўздыхнула.*

*Сышло дагэтуль мноства грозных зім,*
*чакання, шкадавання многа.*
*І проста называлася зусім*
*людзьмі*
*падзея тая —*
*Перамога.*

## Прага

*Ты лёсаў чужынных не прагла,*
*выншавала дні дабяла,*
*далёкая добрая Прага,*
*а слаўных людзей берагла.*

*На лад падпявала крывіцкі*
*адраніцы і дапазна.*
*Спяваў там Забэйда-Суміцкі,*
*маўчаў пра сваё Скарына.*

*Гучала шчымлівая меса*
*Радзімы*
*на цэлы Сусвет.*
*З-пад Нёмна была паэтэса,*
*з-пад Мінска туліўся паэт.*

*Пакуль гаравала і прала*
*руплівая маці мая,*
*далёкая мудрая Прага*
*жыла за дваіх,*
*удвая.*

## Півоні

*І хоць снягі ляжаць на скронях,*
*усходзіць пад акном аер,*
*півоні бела і чырвона*

*не пахлі гэтак,*
*як цяпер.*

*Здаецца зноў, што болей кветак*
*няма на цэлае зямлі,*
*каб так жылі і пахлі гэтак,*
*напаміналі аб былым.*

*Дзе ты сталеў далёкім летам,*
*нібыта дуб у полі наш.*
*Півоні нёс і думаў светла,*
*што будзе так,*
*а не інакш.*

*Настане чэрвень, сонца поўны,*
*прыспешыць думкі дзіўны час.*
*Я паліваў свае півоні,*
*а пахлі маміны штораз.*

*Дзень на зыходзе будзе весні,*
*абы без суму і без хмар.*
*Півоня кожная пры песні*
*напамінае родны твар.*

*Пра шэры дождж ізноў націўкаў*
*мне верабей зрання яшчэ.*
*Што ні пялёстак — то слязінка*
*дажджу*
*на мілае шчацэ.*

*Сядзелі, склаўшы рукі, рэдка,*
*зямлю рабілі маладзей.*
*А прыгажосць, цнатлівасць кветкаў*
*і ад людзей,*
*і для людзей.*

## Пакуль

*Аблачынкамі хай пошта*
*верне думкі мне назад.*
*Азірнулася навошта,*
*затрымаўшы свой пагляд?*

*Ты змаўчыш здалёк раз-пораз,*
*засмяешся дзесьці, то*
*твой усмешлівы праобраз*
*не пакіне больш нашто?*

*Вочы дзень дарэшты муляў,*
*пачуваўся маладзей.*
*Але свежую кашулю,*
*адыходзячы, надзеў.*

*Збажыной, гасцінцам, полем,*
*пералескам маладым,*
*азірнуцца толькі болей*
*ты забылася зусім.*

*Маладжавая суседка,*
*позірк сілай не трымай.*
*Хай абачлівы, хай рэдкі,*
*покуль сонца,*
*покуль май.*

## Сябру

*Не прыкмеціш у траве*
*зблізку і ні здалечы.*
*Ён жыве сабе, жыве,*
*звонка напяваючы.*
*Не папросіць есці, піць*
*поўднем, золкай раніцай.*
*На пчалу не наступіць,*
*паасцерагаецца.*
*Не пабуду ў свеце дзе,*
*дзе мой шлях не сцелецца,*
*праспявае «добры дзень»*
*летам і мяцеліцай.*
*Чым аддзячыць мне ямчэй*
*за дажджамі косымі?*
*Крошкай хлеба*
*і яшчэ*
*чыстымі нябёсамі.*

***

*Жаўрук пачне над лугам сола,*
*і адрачэцца плынь мяжы.*
*Каб атрымаўся верш вясёлы,*
*патрэбна адпаведна жыць.*
*А я заўжды пад клопат чыйсьці*
*плячо падставіць быў бы рад:*
*па-над табою шлях пачысціць*
*і захінуць цябе ад звад.*
*Вясна звінець не перастане,*
*а зружавее крыху ці...*
*Тут нават горкае расстанне*
*імкнецца побач зацвісці.*
*Павесялее зноў алея,*
*пупышкі ўспыхнуць на вярбе.*
*Тады і песня пасвятлее*
*мая аднойчы*
*для цябе.*

***

*Пакуль служыў,*
*прыгожа жыў,*
*і дзе хадзіць не давялося,*
*паўсюль самотныя крыжы —*
*за вёскаю*
*і на нябёсах.*
*Між гарадоў, лясоў паміж,*
*дзе да цябе ісці прыйшлося.*
*Лякарня пекная*
*і... крыж*
*па-над дзвярыма,*
*як над лёсам.*

## Тэлевышка

*Ідзеш па горадзе пакуль,*
*вясёлы ці пануры лішку,*
*яна віднее адусюль,*
*твая Багіня,*
*тэлевышка.*
*Па тэлевізары вясна*
*і росны ранак, вечар куцы.*
*Паўсюль трансліруе яна,*
*а да цябе не дацягнуцца.*

*Набраў зяльвянскіх дзікіх траў,*
*смаркаты, біты, нават босы.*
*Ты галавы не задзіраў,*
*а ведаў вышку*
*і нябёсы.*

# Спроба вярнуцца



Мікола ІЛЬЮЧЫК
(1966—4 лютага 2025)

Адшумеў школьны выпускны баль. Усё прайшло па запланаванаму. Дарослае жыццё пачалося з ігнаравання ўсіх забаронаў, што былі актуальныя для ўчарашніх дзяцей. Былі і нясмелыя пацалункі, быццам знарок, акурат у той час, калі за парачкамі пільна цікавалі настаўнікі. Былі і кранальныя дотыкі і абдымкі ў час танцаў. Было і прыхаванае спіртное, загадзя налітае ў імбрыкі і вазы для кветак. Разбэшчанасці ніякай не было, ніхто той гарэлкі амаль і не пакаштаваў, але ўсіх перапаўняла пачуццё дарослацсі і дазволенасьці таго, што яшчэ колькі дзён таму было пад забаронай.

Потым сустракалі світанне. Гэтым разам абодва класы аб'ядналіся ў сапраўдным маналіце маладосці, сілы і мараў, што не маюць абрысаў і меж. Яшчэ звечара паралельныя класы, як гэта было на працягу дзесяці гадоў, спаборнічалі літаральна ва ўсім, а пад раніцу дзе яно і падзелася, тое спаборніцтва? Шмат гамапілі, смяяліся, дзяліліся сваімі марамі і накірункамі тых першых крокаў, якія зусім хутка прыйдзецца зрабіць кожнаму на ўласных дарогах дарослага жыцця.

Са школай развіталіся назаўсёды. Настаўнікі атрымалі сваю меру шчырых і шчодрых, а можа і не зусім шчырых, бо ўсялякае было за доўгія дзесяць гадоў, падзяк. Бацькам — клопат пра тое, што дзеці з'едуць на вучобу, і як быць, калі ўласная гаспадарка ды калгасныя дзялкі страцяць яшчэ аднаго працаўніка...

Светка Каваліха і Мішка Ціхан ішлі сустракаць світанне, узяўшыся за рукі. Яны крыху адсталі ад сваіх аднакласнікаў і ціха размаўлялі. Светка атрымала сваю бяскрыўдную мянушку ад прозвішча Кавалёнак, адпаведна і Мішка насамрэч быў Ціхановічам. Мішка распавядаў пра сваё жаданне з'ехаць у сталіцу, каб вучыцца ў політэхнічным. Скардзіўся, што бацька супраць намераў сына і бачыць яго калгасным аграномам. Светка размову падтрымлівала, але пра свае намеры не абмовілася ані словам. Быццам не яна сёння атрымала атэстат, быццам не для яе сёння будзе ўзыходзіць сонца першы раз у дарослым ужо жыцці.

— А памятаеш, як нас у шостым пасадзілі разам? Як нам тады было добра за адной партай? — нечакана абарвала Светка нейкі недарэчны ў той момант расповед пра новыя навуковыя распрацоўкі, пра якія прачытаў Мішка ў свежым нумары тэхнічнага часопіса.

— Памятаю, — больш чым стрымана адказаў той.

— А памятаеш, як у восьмым да мяне прычапіўся той блазан з дзесятага «б», а ты з ім бойку ўчыніў? Атрымаў тады ад бацькі, што фінгал пасадзіў сынку калгаснага парторга!

— Памятаю.

— А памятаеш...

Светка шчодра сыпала запытаннямі, а ён толькі сціпла пагаджаўся, бо ў тым узросце яшчэ не скардзіцца на памяць. Усе ўспаміны былі свежымі і яснымі, быццам усё, аб чым узгадвала дзяўчына, адбывалася ўсяго колькі дзён таму.

— Мішка, а я табе падабаюся? Скажы!

Хлопец няёмка паціснуў плячыма і стрымана адказаў:

— Так, падабаешся, і ты аб гэтым ведаеш.

Яна змоўкла ў нейкім задуменні. За вёскай, дакладней за лесам, што атачаў яе з усходу, займаўся золак. Хутка і сонца прачнецца і паднімецца над шатамі векавога ельніку.

Далей нейкі час яны ішлі моўчкі, потым спыніліся. Яна паглядзела ў шчырыя Мішкавы вочы, на ягоны твар, на якім ведала кожную рабацінку, і прытулілася да ягоных грудзей. У грудзях юнака гучна забохала сэрца. Яшчэ праз імгненне іх вусны з'ядналіся ў пацалунку.

— Ціхан! Каваліха! Чаго прысталі? Даганяйце! Калі не будзем разам, то сонца не ўзыдзе! — аднакласнікі гучна клікалі сваіх сяброў.

Нават жартачкі адпускалі на іх адрас. Нават такія, на якія можна было пакрыўдзіцца, але не сёння. Якія крыўды ў такую раніцу ды ў такі момант, калі яны ўжо не саромеюцца сваіх пачуццяў і не хаваюць іх, тым больш ад сяброў і паплечнікаў, з якімі дзясятак гадоў былі разам?

Неба даўно афарбавалася ў ружовы колер, які з кожным імгненнем рабіўся ўсё больш насычаным. Дзеці, учарашнія дзеці, сталі на ўскрайку вёскі і чакалі нечага незвычайнага, нечага дзіўнага. Хоць для ўсіх астатніх людзей гэта быў усяго толькі пачатак новага дня, такога ж звычайнага, якім быў дзень учарашні і якім будзе дзень заўтрашні.

— Ура! Сонца! Сонца!

Юнакі і дзяўчаты скакалі ад радасці і цікаліся ў абдымках. Доўжылася гэта хвілін пяць ці, можа, дзесяць. Трэба вяртацца дадому. На зваротным шляху было меней радасных воклікаў, песняў і жартаў. Дзе і падзелася тая бестурботнасць і гарэзлівасць?

Мішка са Светкай зноў крочылі паводдаль ад усіх і ціха размаўлялі. Чамусьці Светка час ад часу пагладала на маленькі гадзіннік на ценькім бранзалеце.

— Светка, дык ты мне толкам і не адказала, чым будзеш займацца гэтым летам і куды вырашыла пайсці вучыцца, чаму не кажаш? — кленчыў Мішка.

— Дай час, даведаешся першы з усіх, — загадкава адказала дзяўчына і зноў пагладзела на гадзіннік.

Аднакласнікі пачалі разыходзіцца па дамах. Мішка правёў Светку да хаты, яны моўчкі пастаялі ля веснічак, зноў жа — трымаючыся за рукі. Потым юнак на развітанне стрымана чмокнуў дзяўчыну ў шчаку і подбегам рушыў дадому.

Сумна рыпнула брамка, упускаючы дзяўчыну. Асцярожна, каб не пабудзіць бацькоў ды малодшых сясцёр, бразнула клямка, і дзяўчо апынулася ў бацькоўскай хаце. На дыбачках Светка прайшла ў пакой, дастала з-пад ложка старую валізу, што загадзя абачліва падрыхтавала яшчэ заўчора. У ёй і вопратка, і дакументы, і грошы, хай сабе і невялікія. Іх павінна хапіць на ўсё. А яшчэ там ляжаў ліст ад старэйшай сястры, што жыла на ўскрайку зямлі з назвай Камчатка, з падрабязным апісаннем, як і на чым туды дабірацца.

Светка пераапранулася. Вечаровая сукня, што шыла на замову ў вясковым атэлье, не для такіх далёкіх падарожжаў. Зноў жа ціхенька выйшла з хаты і хуткай хадою падалася на аўтобусны прыпынак. Гадзіннік на тонкай дзявочай руцэ змушаў паспяшаць. Першы на гэты дзень рэйс зусім хутка.

У Светкі было ўсё спланавана. Тэлеграму бацькам яна адаб'е са сталіцы. Ніякіх цыдулак вырашыла не пакідаць. Хто ведае, што наўме ў бацькі, чаго добрага — у міліцыю заявіць, шукаць пачнуць. Мішку вырашыла напісаць ліст толькі тады, калі стала атабарыцца на новым месцы.



Фота pxhere.com

Сястра прапаноўвала навучанне ў тэхнікуме. З жытлом праблем не будзе, можна пажыць у яе, знойдзецца пакой для малодшай у вялікай кватэры, а можна будзе жыць, як і ўсе студэнты, у тэхнікумаўскім інтэрнаце. Час пакажа.

Нешматлікія аднавяскоўцы, што гэтым будзённым ранкам накіроўваліся ў горад, стрымана віталіся, але пытанняў не ставілі. Мала ці па якіх справах едзе ў горад маладая дзяўчына, што скончыла школу.

Светка глядзела на знаёмыя абшары паабапал дарогі. Не было ні суму, ні жалю, ні страху перад невядомым. Хацелася як мага хутчэй пакінуць апастылую вёску і збегчы ад той ненавіснай і, як ёй здавалася, бессэнсоўнай працы, што парабаціла і дарослых, і малых. Яна цалкам аддалася на волю лёсу і даверылася яму.

Света дзейнічала дакладна па той пакрокавай інструкцыі, што даслала старэйшая сястра разам з чарговым лістом. Дзяўчына зрабіла ўсе захады дзеля таго, каб ліст не трапіў у рукі бацькоў, — перасцярога не была залішняй. На вакзале ў райцэнтры яна набыла патрэбны квіток і села ў цягнік, што павінен быў дамчаць яе да Масквы. Там яна, зноў жа згодна з сястрынскай інструкцыяй і за ёй жа дасланыя грошы, набыла ў адмысловай касе квіток на самалёт да Петрапаўлаўска-Камчацкага і пераехала на грамадскім транспарце ў аэрапорт. Сястра вучыла, што ні ў якім разе не варта карыстацца ў сталіцы паслугамі таксі, бо абдзяруць як ліпку.

Усё ішло па плане. Маленькі збой атрымаўся ў аэрапорце. Да вылету было амаль пяць гадзін. Святлана паспела патэлефанаваць сястры і паведаміла нумар рэйса. Адбіла тэлеграму бацькам. Маўляў, не хвалюйцеся, усё добра, еду да сястры на Камчатку.

Зморанай дарогай і ад страху перад будучым пералётам Светка, сама таго не чакаючы, задрамала. Ачомалася ад дотыку, нехта церабіў яе за плячо.

— Не спаць, калі ласка, пакажыце вашыя дакументы і квіток, — Светка прачнінула вочы і ўбачыла твар чырванашчокага маладзёна ў міліцэйскай форме.

Светка дрыготкімі, а таму непаслухмянымі рукамі дастала з сумачкі пашпарт, квіток на самалёт і падала міліцыянеру.

— Так, так, — міліцыянер пачаў гартаць пашпарт, — Кавалёнак Святлана, і чаго мы так далёка сабраліся, што шукаць будзем там на самым краі зямлі?

— Я да сястры еду, буду там працаваць, вучыцца, жыць хачу там.

— Грамадзянка Кавалёнак, вы камсамолка? — нечакана запытаў міліцыянер.

— Так, а як жа, і камсамольскі білет з сабой, — Святлана зноў палезла ў сумачку, дзе павінен быў ляжаць патрэбны дакумент.

— Камсамольцы не хлусяць, — сувора сказаў міліцыянер, у якога да форменнага кіцеля быў прышпілены камсамольскі значок. — Кавалёнак, кажыце праўду, з якой нагоды вы ляціце ў Петрапаўлаўск?

— Але я не хлушу, чэснае камсамольскае.

— Добра, камсамолка Кавалёнак, на ўсходніх рубяжах краіны таксама патрэбны маладыя, дужыя рукі. Спадзяюся, што вы знойдзеце для сябе занятак на камсамольскай будоўлі, ці яшчэ дзенебудзь. А камсамольскі значок усё ж варта прышпіліць, — маладзён вярнуў ёй дакументы і пакрочыў далей, можа, будзіць яшчэ каго з пасажыраў, што задрамалі, ці па нейкіх іншых, але не менш важных справах.

Больш ніякіх перашкод на шляху камсамолкі Кавалёнак, ці проста Светкі, не ўзнікла. Пералёт быў доўгім, але нават лепшым, чым таго чакала сама Святлана. Страх некуды падзеўся адразу пасля ўзлёту. Мабыць, у час таго першага палёту Святлана ўсвядоміла, што ў яе жыцці будзе вельмі шмат пералётаў на вялікую адлегласць з усходу на захад і наадварот.

У Петрапаўлаўску-Камчацкім Святлану сустракала старэйшая сястра з мужам. Пасля традыцыйных пацалункаў і абдымкаў яны накіраваліся дадому. Сапраўды, на некалькі гадоў пакой у кватэры старэйшай сястры стаў яе сапраўдным домам.

Як і планавалася, тым жа летам яна паступіла ў тэхнікум. Вучылася паспяхова. А пасля размеркавання ўладкавалася на працу. Як маладому спецыялісту ёй прапанавалі пакой у заводскім інтэрнаце і паставілі ў чаргу на кватэру.

Усё ў яе было як мае быць. Толькі з Мішкам Ціхановічам стасункі рабіліся ўсё больш рэдкімі. Тыя пачуцці, што былі паміж імі ў школе, не вытрымалі выпрабавання адлегласцю. Што тут казаць: ці жарт — амаль восем тысяч кіламетраў! Ліставанне, што вялося прыкладна раз на тыдзень, занадта скарацілася, асабліва ў апошні год, калі Міша дэмабілізаваўся з войска. Потым прыйшоў апошні ад яго ліст. Можа, ён і не быў бы апошні, але Света на яго не адказала, быццам даючы таму зразумець, што паміж імі нічога не можа быць. Дзіва што, у тым сваім апошнім лісце Міша, быццам прабачаючыся, пісаў, што ў яго досыць прыязныя адносіны з нейкай дзяўчынай з суседняй вёскі і справа ўпэўнена набліжаецца да вяселля.

Святлана ніколькі не гаравала з нагоды маючага адбыцца сябравага вяселля. Як ёсць, так ёсць. Разумела, што ён ніколі не наважыцца ехаць у такую далячынь, а вяртацца дадому ў яе не было ніколі ніякіх намераў.

Бацькам таксама рэгулярна пісала лісты, але за колькі гадоў так і не наважылася іх праведаць, хоць і ведала, што тыя не злуюць на яе за той учынак, што здзейсніла на раніцу пасля школьнага выпускнога. Часам сумавала па іх, але старалася трымаць сябе ў руках, не давала волі сантыментам.

З сям'ёю не паспяшала. Хоць былі прыхільнікі і былі заляцанні. Па вытворча-камсамольскай лініі зрабіла выбітную кар'еру, бо заўсёды была стараннай і працавітай. Так была навучана з маленства: калі працаваць, то працаваць. Святлана паступіла ў інстытут на завочнае аддзяленне, чым яшчэ больш узнялася ў вачах кіраўніцтва.

Заканчэнне на стар. 7 »

# Спроба вярнуцца

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6


Фота pxhere.com

Неяк агульныя сябры запрасілі Святлану разам з сям'ёй сястры на вандроўку выхаднага дня. На Камчатцы шмат прыгожых месцаў, але выспа Старычкаў — гэта нешта выключна асаблівае. Дзве гадзіны на катэры праходзяць незаўважна. Але колькі прыгажосці наўкол! На самім востраве гармідар птушыных базараў, пляжы з нерпамі, смаката свежай, толькі што злоўленай рыбы, прыгатаванай на вогнішчы, юшка з чырвонай рыбы і непаўторны смак крабавага мяса, — вось гэта адпачынак, ды яшчэ ў добрай кампаніі. Святлана была проста ў захапленні.

На зваротным шляху чамусьці засумавала. Дакладна ведала, што назоў гэтай выспачкі прадугледжвае рабіць націск на першым складзе, і назва яе перайшла ад назвы птушак — старыкаў, што атабарыліся тут вялізнай калоніяй, але Святлана чамусьці ўзгадала сваіх састарэлых ужо бацькоў. Колькі ж яна іх не бачыла! Напэўна ж, пастарэлі. Хоць у лістах пісалі, што дужыя, трымаюцца бадзёра і да ўсялякай вясковай працы яшчэ спрытныя.

— Чамусьці хочацца бацькоў адведаць, — нечакана прамовіла да сястры. — А давай адпачынак возьмем і маханём на радзіму!

— Давай, я ў любы час магу, а ты? — сястра адразу прыняла прапанову малодшай.

— Плануй на пачатак ліпеня. Сама чарніцы будуць у гэты час, я марыла пахадзіць па сасонніку, збіраючы ягады.

— А мне калі-нікалі грыбы сняцца, такія крамяныя баравікі, лісічкі, маслякі... Нават водар у носе стаіць. У цябе так не бывае?

— Бывае, — з сумам адказала Святлана.

Сказана — зроблена. Два апошнія месяцы Света жыла чаканнем пабываць на радзіме, у бацькоўскай хаце. Як яны там? Як выглядае мама? Як пачуваецца тата? Што за гэтыя гады адбылося ў вёсцы? Як склалася жыццё ў Мішкі Ціхана? Лісты лістамі, а тут такая магчымасць: пабачыць усё на ўласныя вочы.

Святлана сядзела ля ілюмінатара, побач сястра, з якою нейкі час размаўлялі, а потым аддаліся ўспамінам і марам, кожная сваім. Агромністы лайнер, нібы вялізная срэбракрылая птушка, імчаў на захад.

Надвячоркам наступнага дня сышлі яны з цягніка і накіраваліся да аўтобуснага прыпынку. Невялікія валізы з далёкаўсходнімі прысмакамі ў выглядзе вэнджанай чырвонай рыбы і бляшанкамі ікры ды невялікія сумачкі праз плячо не сталі для дзяўчат цяжарам, тым больш, што прыпынак не так і далёка.

Змрок павольна ахутваў зямлю, ва ўсю моц спявалі салаўі. Нешта балбатаў рэпрадуктар на бетонным слупе. Раптам з яго так дарэчы загучала песня: «Купалінка, купалінка, // Цёмная ночка... // Цёмная ночка, // Дзе ж твая дочка?» Святлана ўпотай ад сястры змахнула слёзы. Старэйшая, каб крый Божа не пабачыла меншая, зрабіла тое ж самае. А яшчэ праз нейкі час стомлены за гарачы дзень аўтобус вёз сясцёр у родную вёску.

Сустрэча з сям'ёй была цёплай і шчымлівай. Пасля абдымкаў ды пацалункаў далі волю слязам. Бацькі сапраўды пастарэлі, усё часцей сталі даймаць хваробы. Нават хата і тая пастарэла, нібы ніжэйшай стала, нібы пад цяжарам гадоў урасла ў зямлю.

Святлана бавіла час з сёстрамі, дапамагала бацькам па гаспадарчых справах, быў час і на вандроўкі ў лес, аб якіх яна столькі марыла, жывучы там, на краі зямлі. Адпачынак праляцеў імгненна, і вось зваротныя квіткі паклікалі ў дарогу. Расстанне было цяжкім. Можа ўпершыню ў жыцці да Святланы прыйшло пачуццё, што яна вось-вось нешта згубіць, прычым назаўсёды. Ад гэтага ёй рабілася млосна.

Вось і аўтобус. Праз запыленую шыбу пабачыла яна заплаканыя вочы матулі і сясцёр. Заўважыла, можа ўпершыню за жыццё, як пастарэў і асунуўся тата. З сястрой размаўляла мала, ні ў цягніку, ні потым у самалёце не было ніякіх шчырых размоў, абменьваліся нейкімі дзяжурнымі фразамі. Абедзве разумелі: навошта вярэдзіць сэрца і душу.

Пасля вяртання Света зразумела: варта бываць на радзіме штогод. Яна вырашыла, што будзе браць штогадовы адпачынак дзеля таго, каб бачыцца з роднымі. Бо гэта насамрэч лепш, чым марнаванне часу на курортах ці ў нейкіх санаторыях. Так і рабіла, не зважаючы на адлегласць і грашовыя траты.

Жыццё не было такім жа насычаным і імклівым, як і раней. Усё вакол яе вiравала і кіпела. Праца на першым месцы, на другім — уласная сям'я, якая нейкім цудам пры яе занятасці нарэшце сфармавалася, праўда, ненадоўга. Толькі каля сарака яна крыху супакоілася. Як вынік — статус развядзёнкі і амаль дарослая дачка.

Засталася нязменнай толькі тая добрая звычка, што выпрацавалася ў яе: штогод ляцець тысячы кіламетраў, каб ступіць на ганак бацькоўскае хаты, каб пахадзіць босымі нагамі па роснай траве, якою стаў зарастаць падворак, каб пабачыць мілых і дарагіх сэрцу людзей, колькасць якіх з кожным разам памяншаецца, як гэта ні сумна. Ляціць, быццам птушка з выраю.

Толькі аднойчы сустрэлася Святлана з Мішкам Ціхановічам, хоць жыў той у вёсцы, нікуды не з'ехаў. Мішка стаў звычайным вясковым мужыком, на якім і сям'я, і гаспадарка, і праца ў калгасе. Зусім мала яны тады паразмаўлялі. Света зразумела, што паміж імі няма нічога агульнага, хіба толькі нейкія ўспаміны з мінулага: нешта са школьных гадоў ды з выпускнога. Цяпер у кожнага сваё ўласнае жыццё, і пражывае яго кожны сам, як хоча: пнецца, стараецца і нешта мяняе, альбо так, як яму наканавана лёсам, аддаючыся пад уладу плыні жыццёвай ракі.

Аднойчы Святлана прыехала ў родную вёску з дачкой-падлеткам. Трэба ж было пазнаёміць яе са шматлікай раднёй. Паказаць дачцэ тое, што для самой з'яўляецца каштоўным. Але дачку не ўразілі ні ўспаміны матулі, ні вясковыя родзічы, а камары ды машкарэча, ад якой так пакутавала дзяўчына, разбурылі намаганні матулі ўшчэнт — дачка заявіла, што больш нагі яе тут не будзе.

Кожны наступны год Святлана ехала ў родную вёску адна, толькі аднойчы сталася так, што старэйшая сястра вырашыла паехаць разам з ёю. Нагода была: узімку памёр тата. Прыехаць на пахаванне было немагчыма, ды і ці паспееш — далячынь.

Сёстры прыехалі дадому пасярод гарачага летняга дня. Разам з мамай адразу ж пайшлі на вясковыя клады, куды навечна перасяліўся бацька, туды, дзе канчалася яго жыццёвая сцежка. Света зняла басаножкі, каб ступакі палашчыў гарачы пясок вясковай вуліцы. Яны падышлі да пясчанага ўзгорачка, што пачаў парастаць рэдкаю травою. Пастаялі моўчкі, бо ў кожнае былі нейкія ўласныя думкі, агучваць якія ў такія моманты зусім не прынята.

Наступным днём паехалі ў раён, каб паскорыць пытанне з вырабам помніка, які даўно замовіла мама. Прыязны выгляд сімпатычных жанчын ды грошы зрабілі сваю справу: праз колькі дзён замова была выкананаю, знайшліся і адмысловыя спецыялісты, што даваршылі пачатае. Дочкі паспелі ў час, да іх ад'езду на бацькавай магіле стаяў прыстойны помнік. А вяршыняй іх бурнай дзейнасці таго лета стаў тэлефон, які дзякуючы менавіта іх намаганням і грашам прапісаўся ў роднай хаце. Цяпер маме будзе не так сумна, і Света, як і астатнія дзеці, заўсёды зможа пагаманіць з родным чалавекам.

На вялікі жаль, намаганні наконт тэлефона былі марнымі, бо мама пражыла зусім мала і выправілася ўслед за бацькам. Пасля таго начнога тэлефанавання Святлана доўга не магла прыйсці да цямы. Ледзьве дачакалася раніцы. Падняла ўсіх знаёмых, нават самых уплывовых, зрабіла ўсё магчымае і нават немагчымае, але пытання з квітком на самалёт так і не змагла вырашыць. Смутак ад страты крыху згладжвалі размовы з сёстрамі. Яны ўсё разумелі і, як маглі, суцяшалі яе.

І вось яно — лета. Яго чакала Света так, як ніколі ў жыцці. Толькі пасля таго, як сама стала матуляй, па-сапраўднаму зразумела, колькі пакут, турбот і перажыванняў прычыніла яна бацькам сваім паспешным ад'ездам з вёскі. Ад каго ўцякла? Хіба ад нечага магчыма збегчы? Яно ўсё роўна праследуе, яно жыве ў табе, дзе б ты ні быў — на ўскрайку зямлі ці побач з домам.

У самалёце быў час паразважаць і пажыць у тым цудоўным свеце, што завецца ўспамінамі. Узгадвала дзяцінства, сустрэчы з бацькамі ў час сваіх штогадовых вандровак. Часам надыходзіла пачуццё віны, але што мог змяніць той дзявочы ўчынак? Яна сама выбрала для сябе такое жыццё. Вунь, малодшыя сёстры засталіся ў вёсцы, былі літаральна побач з бацькамі — і што, нешта перайначылі, неяк паўплывалі на іх жыццё? Не. Усё адбылося так, як мелася адбыцца. Так, прымусіла тады бацькоў да перажыванняў і турбот, дадала ім сівізны на іх галовы. Але ж яны не крыўдавалі. Любілі яе, як і іншых сваіх дачок. Не папракалі ніколі гэтым яе ўчынкам. Яшчэ і жартавалі з той нагоды.

— Гэта ж трэба так, Светка, ты больш за ўсіх любіш вёску, а цябе занесла вунь у якую далячынь, — здзіўлялася мама.

— Чамусьці мне здаецца, што наша Светка вернецца, не ўсё жыццё ёй быць на ўскрайку зямлі. Там жа далей нічога няма, акіян толькі, — казаў бацька.

Самалёт дакрануўся да зямлі, і мары з успамінамі недзе падзеліся. Мабыць, ім лепш там, у нябёсах. Тут, у зямной рэчаіснасці, ім месца мала, тут рэаліі і рацыяналізм.

Святлану сустрэлі малодшая сястра з мужам. «Наша меншанькая», — любіў казаць пра яе бацька. Меншанькая даўно вырасла, але ў памяці жыло кожнае бацькава слова. У памяці засталіся ўспаміны пра маму, Света нават без фотаздымка памятала кожную зморшчку на яе твары ці на стомленых працай далонях.

Па просьбе Святланы паехалі адразу на магілкі. Вось яны, дзве родныя магілкі.

— Вітаю, тата. Прабач, мама, — шэптам вымавіла дачка, паклала кветкі і села на драўляную лавачку, што некалі ўсталявалі побач з магілай таты па просьбе матулі. Яна любіла тут пасядзець.

— Пакіньце мяне адну, я хутка прыйду дадому, а вы едзьце, — папрасіла яна.

Ёй не хацелася, каб нехта бачыў яе слёзы. Усе даўно прызвычаіліся, што яна моцная і здольная на ўчынкі. А ёй проста захацелася пабыць маленькай дзяўчынкай, якая яшчэ нідзе не была і нічога не ведае. Побач мама і тата. З імі добра, утульна і зацішна. Яны дапамогуць, яны абароняць, яны падкажуць. Яна сцішылася, нібы ў абдымках гэтых самых родных і блізкіх людзей. Тых, хто любіў яе заўсёды.

Скончыўся і гэты водпуск. Святлана ляціць на ўсход. Зноў разважае і зноў марыць. Добра марыць тут, за аблокамі. Сёння Света зразумела, што мара пра пераезд, пра вяртанне можа стаць явай. Дачка вырасла, у яе сваё ўласнае жыццё. Не за морам пенсія. Можна купіць дамок ці кватэру, а можна застацца ў сваёй хаце, там, дзе некалі нарадзілася і жыла... Яна абавязкова некалі паспрабуе вярнуцца. І гэта вырашана.

А пакуль... Пакуль трэба заняцца справамі. Патрэбна спланаваць усё так, каб наступным летам зноў вярнуцца, няхай сабе толькі на пэўны час, туды, дзе табе добра, дзе на мурагу гаючыя росы, дзе дарога з цёплага жоўклінцу і дзе такія пявучыя птушкі...

# «У памяці ўсё гэта жыве»



Анатоль КУДРАВЕЦ
(1936—2014)

…Месца для сяла было выбрана, можа, і не надта прыдатнае, балоцістае, з невялікімі выспамі вышэйшай і сушэйшай зямлі, на якой людзі будаваліся і сяліся, усё болей пашыраючы прастору свайго ўладарання.

Чаму назвалі вёску Аколіца? Відаць, таму што шукаць назву далёка не трэба было. Ледзь не ў кожным раёне Беларусі ёсць вёскі з такой назвай. Праўда, у дадзеным выпадку мелася і свая логіка: вёска была ўбаку ад важных жыццёвых магістраляў, хаця і каля іх, недзе пасярод трохкутніка, створанага гарадамі Мінск — Магілёў — Бабруйск.

Яшчэ на памяці сённяшніх старэйшых людзей раскарчоўвалі дзялянкі ў лесе на вышэйшых мясцінах, каб сеяць проса і каноплі, а каля самых хатаў і па вуліцах узвышаліся шырокія, як сталы, пні некалі магутных дубоў і ялін…

Аселі паны ў гэтых мясцінах з часоў Вялікага Княства Літоўскага. Кудраўцы з'явіліся тут пазней. Адно вядома дакладна, што яшчэ за прыгонным часам (1861 год) нехта з Карбановічаў выкупіў у падмаскоўнага памешчыка двух братоў Кудрявцевых, прывёз, выдзеліў па некалькі дзесяцінаў прыбалотнай зямлі. Пасяліліся яны недалёка ад пана, паабапал дарогі, што вяла ў Коўбчу, насупраць, можна сказаць, вокны ў вокны. Як звалі братоў, засталося невядома.

З часам Кудрявцевы сталі Кудраўцамі. Відаць, цяжка было мясцовым людзям прамаўляць мудронае нетутэйшае прозвішча. Адзін з братоў быў рослы, другі драбнейшы, меншы, і людзі, каб не блытаць, назвалі аднаго Кудраўцом, другога Кудраўчыкам.

Так і пайшлі па ўсёй далейшай лініі паралельна Кудраўцы і Кудраўчыкі, хаця ў дакументах прозвішча заставалася адно — і тыя Кудраўцы, і тыя Кудраўцы.

На аколіцкіх праваслаўна-каталіцкіх могілках у кутку, дзе хавалі Кудраўцоў (Кудраўчыкі займалі свой куток) захаваўся невысокі, пахілены, урослы ў зямлю востразакруглены шэры камень, на якім выбітыя два словы: Кудравец Анастасія. Дзядзька Мікола казаў, што гэта камень на магіле ягонай бабкі, а нашай прабабкі. Побач з гэтым каменем яшчэ некалькі гадоў таму стаяў высокі, метры ў тры, абымшэлы дубовы крыж. Зноў жа, дзядзька казаў, што стаяў ён на магіле мужа Анастасіі, нашага прадзеда.

Кудраўцы старэйшага пакалення ўсе сыйшлі ў магілу, і сёння даведацца што-небудзь новае ці пацвердзіць усё гэта няма каму. Як помню (а гэта, лічы, семдзесят гадоў), крыж заўсёды быў такі шэры, высахлы, абымшэлы, нібыта час не меў улады над ім. Усё-такі знайшоў уладу — нядаўна зваліўся…

Па ўсім, апошні пан Карбановіч быў не з ганарыстых, часам запрашаў беднага суседа Хведара на паляванне і нават да сябе ў дом. Здавалася, так будзе заўсёды. Але нечакана здарылася бяда: ці пастухі праспалі, ці так захацелі, але ў згаданы час панскія коні да чарнаты здратавалі дзедаў азімы клін. Дзед пайшоў да пана з прэтэнзіяй, каб той ці сплаціў, ці адмяніў здратаванае поле на сваё засеянае. Відаць, гаворка праходзіла бурна, бо дбайныя служкі вынеслі дзеда з панскіх пакояў на кулаках. Пакачалі так, што той ледзь дабрыў да сваёй хаты. Паляжаў некалькі дзён, пахаркаў кроўю і памёр. Пан Карбановіч прыйшоў развітацца з суседам, пастаяў у галовах ля дамавіны, выдзеліў на жалобны стол бычка са свайго статку.

Дзеду Хведару было сорак гадоў. На руках у ягонай удавы Парaскі засталося шасцёра: Аўгіння (1901 год нараджэння), Яўмен (1903), Пятрок (1905), Павел (1907), Паўліна (1909), Мікола (1911). Быў то 1914 год.

Баба Параска была быстрая, рухавая, росту невялічкага, трошкі больш за метр пяцьдзясят, але характар мела дзелавы, актыўны.

Некалькі гадоў малы Павел — мой будучы бацька — летам дапамагаў пастухам пана Карбановіча пасвіць свіней, а зімой вучыўся ў школе. Пасля пачатковай школы, прадаўшы бычка, Параска аддала Паўла вучыцца на шаўца ботаў. У шаўца Павел быў на падхваце: тое падай, тое падрыхтуй — дратву, воск, бярозавае зуб'е… Хаця майстар і не надта кіраваў навукай, маладыя вочы і рукі вучня запаміналі тое, што трэба было ўмець рабіць. Калі праз паўгода майстар ад'ехаў на тыдзень у госці да радні ў Бабруйск, то, вярнуўшыся, убачыў свайго вучня ў новых, самім пашытых ботах. Майстар сказаў здзецць боты, пакруціў іх у руках, павярцеў, паглядзеў на маладога майстра. «Ну што ж, даражэнькі, бачу: табе няма чаго рабіць у мяне. Што трэба, ты ўмееш. А астатняе — у Божых і тваіх руках».

Малады майстар вярнуўся дамоў. Яму было трошкі болей за трынаццаць. Пятрок працаваў у Бабруйску, неспакойны Яўмен ваяваў у Чырвонай арміі. Уся гаспадарка была на руках жанчын: мамы Парaскі, дзяўчат Аўгінні і Паўліны. Ды яшчэ малы Міколка…

Як птушку да гнязда, як жабу да карча, цягне чалавека ўспомніць сябе малым, і перш за ўсё — з чаго ж усё пачыналася, як табе адкрываўся гэты свет. Самае першае, што засталося ў маёй памяці: лета, акно ад вуліцы вынята, а на падаконніку, на ўсю яго шырыню, ляжыць масніцына — вузейшы канец ля парога, шырэйшы — на падаконніку. Насціялаюць падлогу, дошкі на ўсю даўжыню хаты, і занесці іх усярэдзіну можна толькі праз акно. Сонца збіраецца заходзіць, і чыста адгабляваная залацістая масніцына з магутнай яліны аж іскрыцца пад яго касымі праменнямі. Яліна сапраўды была магутная, на чатыры ці пяць таўстых дошак, якіх, калі паклалі адну ля адной, хапіла на добрую трэць падлогі.

Пазней, ужо дарослы, я спрабаваў даведацца ў мамы, у якіх гадах, калі гэта было. Яна сказала, што я не магу гэтага помніць: калі слалі падлогу, мне было паўтары гады. «Не магу», але ж я помню: лета, сонца збіраецца заходзіць, вынятае акно, а на падаконніку шырачэзная залацістая масніцына…

Помніцца яшчэ такое: вясна, я на падаконніку таго ж акна, уторкнуўшыся носам у шыбіну. Па вуліцы, па яе сярэдзіне, ідзе трактар на жалезным колавым ходу, арэ вуліцу пад дарогу. За ім, як варанн ё, бягуць дзеці. Мне таксама хочацца туды да ўсіх, але я не магу: я малы, на дзве трэці акна, у мяне нават штонікаў няма, адно доўгая, ніжэй каленяў, кашуля. Колькі мне — два, тры гады, — не ведаю…

І зноў вясна. Пасля менінгіту я пайшоў на папраўку, і мяне, захутанага ў посцілку, мама вынесла на ганак, пасадзіла ля сцяны. Добра грэе сонца, у небе заліваюцца жаўранкі, ля хлява на дрывотні грабуцца ў трэсках куры з пеўнем. Мне хочацца расхінуць гэтую посцілку і пагнацца за імі, але я вельмі слабы, ногі калоцяцца, і двор мокры. Але жыццё кліча і радуе…

Восень, дзеці пасвяць коней. У нас кабыла — армія забрала нармальнага каня, а пакінула дурную кабылу з пераэзанымі на нагах жыламі. Паціху з кустоў яна забрыла ў жыта. Разумны чалавек адвярнуў бы… голасам, крыкам. А я — дубцом па нагах, раз, другі. Яна падкінула задам і капытом мне ў лоб… Я і зваліўся. Трохі паляжаў, ачнуўся, убачыў, што на ілбе кроў і на руцэ кроў, і з голасам пайшоў дамоў…

Пачатак вайны ўспамінаецца нечаканасцю, няпэўнасцю. Мужыкі ходзяць па сяле і месца сабе не знаходзяць. То там збяруцца, то там. Шу-шу, шу-шу… Малых хлапцоў не падпускаюць… А тым хочацца ўсё ведаць, усё чуць. Пасля мужыкі раптам папрападалі. Тут былі, а тут іх не стала. І Санькоў, і Цэдрыкаў, і Ізмераў, і Кудраўцоў. Каго прызваў ваенкамат, хто сам прыхаваўся. Дайшлі чуткі, што многіх з прызваных ваенкаматам немцы загрэблі ў лагер пад Магілёвам. Бабы пацягнуліся туды. З торбамі, з яйкамі, з салам… Жах што тварылася там. Мужыкі гінулі з голаду, з холаду, ад паносаў пасля вараных буракоў.

Трапілі туды і мае дзядзькі Пятрок і Мікола. Цётка Поля, Міколава жонка, ездзіла туды. Вярнуўшыся, яна расказвала пра дрыжачыя рукі, якія цягнуліся праз сетку да кожнага кавалачка хлеба…

Чаму я пачаў пісаць? Відаць, таму, што не пісаць не мог. Калі б сур'ёзна перабіла нешта іншае — праца з тапаром у руках, ці матэматычныя практыкаванні, ці яшчэ што, — калі б усё гэта было мацнейшае і захапіла ўсяго, можа б, і не пісаў. Хаця не, усё роўна пісаў бы.

Калі чалавека недасведчанага, далёкага ад тэхнікі, прывесці да кучы металу, розных дэталяў і механізмаў і сказаць, што гэта машына і для таго, каб паехаць на ёй, патрэбна зусім нямногае: сабраць у пэўнай паслядоўнасці, звінціць адны часткі з другімі, спаяць, паставіць на колы, «абуць» колы ў гуму, заправіць бак бензінам — гэта значыць, зрабіць тое, каб кожная з гэтых дэталяў увайшла ў звязку з астатнімі і ўсе яны разам зажылі як адзіны жывы арганізм, — дык вось, калі гэта сказаць чалавеку недасведчанаму ў тэхніцы, ён ніколі не паверыць, што на гэтай кучы металу можна паехаць. Але калі сказаць вопытнаму механіку аўтагаража, варта яму кінуць вокам на ўсю гэтую груду механізмаў, каб ва ўяўленні ягоным паўстала машына — прыгожая, лёгкая, паслухмяная, якія тысячамі бегаюць і па нашым Мінску, і па зямлі ўвогуле, ён не толькі возьмецца за работу, а і давядзе яе да канца, і паедзе на той машыне. У дадзеным выпадку гаворка ідзе пра неабходнасць фантазіі нават дзеля таго, каб з гатовых дэталяў, блокаў сабраць машыну. Тым болей яна патрэбна пісьменніку для таго, каб з неіснуючых рэальна частачак сілай сваіх пошукаў сканструяваць, прыдумаць, выдумаць, сабраць нешта такое, што людзі чыталі б з цікавасцю і ўспрымалі як рэальна існуючы свет…

А з чаго ўсё пачыналася?.. Можа, з гэтага?.. Суботні зімовы вечар. У хаце распаленая да чырвоных бакоў жалезная печка — сушыць нядаўна памытую падлогу. Пах чыста выскабленых падсохлых масніцын. Ля сцяны, на шырокай канапе — бацька з дзядзькам Міколам. Кураць, ціха гавораць. Ні мамы, ні дзяўчат няма — яны пабеглі ў лазню. Пад столлю над сталом вісіць лямпа. Паставіўшы кнігу так, каб было лепш відно, стоячы перад сталом, я чытаю «Дрыгву». Стоячы, бо так, па прычыне малога росту, я вышэйшы. Чытаю ўголас, каб чулі бацька і дзядзька Мікола. «Дрыгву» ў другім класе яшчэ не праходзяць, гэта кніга маёй старэйшай сястры Мані, я ўзяў яе паглядзець. Пачаў чытаць і ўжо не мог адкласці. І мне хочацца, каб і бацька, і дзядзька чулі, пра што тут напісана і напісана так хораша.

«Спакойна і павольна, як у зачараваным сне, утуліўшыся ў балоты, нясе Прыпяць сухадоламу Дняпру сваю багатую даніну…»

Чытаю, заварожаны магіяй слоў, яны ліюцца плаўна і вольна, нібы нараджаюцца ўва мне самім, нібы гэта я сам усё так складна прыдумаў. Закалыханы сваім голасам, не адразу заўважаю, што перастаў разумець, пра што чытаю. Словы перарастаюць у музыку, і ўжо здаецца, што не мае сэрца ідзе ўслед за пісьменнікам, а ён сам ідзе ўслед за рухам маёй душы і гэтага вечара, і гэтай цішыні, і гэтай цёплай вымытай і падсушанай падлогі…

Спахопліваюся, бо бачу, што бацька з дзядзькам перасталі гаварыць, слухаюць мяне. Гэтае адкрыццё перарывае чытанне, я пазіраю на іх. І тады дзядзька, ускінуўшы галавой, пачынае сам:

*Дрэнна маё жыццё,*
*Усё ідзе не ў лад:*
*Лезу я наперад —*
*Асадзі назад…*

Гэты знерваваны, успыльчывы, пашчыпаны фінскай і гэтай войнамі чалавек, ён і цяпер, праз паўтара гады пасля таго, як яго прывезла дамоў шпітальная сястра, прыйшоў з мыліцамі: зноў адкрылася рана на назе. Але як ён чытае?.. Ён не чытае, а расказвае пра сябе. Гэта ў яго, куды ні ткніся, «асадзі назад». Гэта ён і ёсць той мужык, сын бядоты, які недаесць і недаспіць…

І гэта праўда, так і было. Яго бацька, і бацька майго бацькі, да смерці збіты наймітамі пана Карбановіча, памёр у сорак гадоў. Баба Параска засталася адна, на руках шасцёра дзяцей. І яны вымушаны былі пайсці на паклон да таго ж пана Карбановіча, прасіцца, каб узяў на працу, каго парабкам, каго пастушком…

Засталіся жывыя, павырасталі, пажаніліся, разбудаваліся ў Аколіцы на шэсць двароў…

Недзе неўзабаве за гэтым вечарам здарыўся ў Аколіцы, на нашым пасёлку, выпадак, які абурыў усіх. Знайшоўся ў сяле чалавек, які ноччу, калі гаспадар дома, наш сусед, быў у ад'ездзе, залез на гарышча ягонай хаты і адкруціў галовы дзвюм курыцам. Іх і было толькі дзве ў беднай Шварцавай хаце! Разам з курамі злодзей прыхапіў сухога ліпавага палосся на лапці і трохі высушанай табакі — усё гэта вісела там жа, на гарышчы. Палоссе — гэта не страшна, нават табаку можна было б даравáць, а дзве курыцы — гэта ўжо было злодзейства і па ваенным часе не малое. Па маштабе галодных пасляваенных гадоў такое нельга было пакінуць беспакарана або зрабіць выгляд, быццам нічога не здарылася, хоць злодзея і не злавілі на месцы злачынства.

Заканчэнне на стар. 9 »

# «У памяці ўсё гэта жыве»

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 8

Пагаворвалі, што тое зладзейства — справа рук аднаго чалавека, зноў жа, недалёкага нашага суседа Марушкевіча: гэта мог зрабіць толькі ён. Тым болей, што той жа ноччу гаспадыня скрадзеных курэй, якая трошкі запознена выскачыла з хаты, пайшла па следзе, і след прывёў да хаты гэтага суседа, і праз шчыліну занавешанага акна яна бачыла, як сусед скуб птушак. Але не ўзяў за руку — не кажы, што злодзей. Так гаварылі дарослыя.

Дзеці пра ўсё гэта думалі па-свойму, з дзіцячым максімалізмам. Тое, пра што дарослыя ведалі, але не хацелі гаварыць адкрыта, для нас было элементарнай аксіёмай: пра зло трэба гаварыць на ўвесь голас, і зло павінна быць пакарана. Чаго маўчаць? Пра гэта павінны ўсе ведаць. Словам, у грудзях маіх адбыўся нейкі зрух, штуршок, які і павёў маю руку з ручкай па паперы. За нейкія хвіліны быў напісаны вершык пра тое, як хлопцы, мае равеснікі Пеця з Віталем, кніжкі чытаюць, а нехта на гарышчы закурыць шукае і г.д. І ўсё гэта з канкрэтнымі дэталямі, імем, прозвішчам...

Сваёй паэтычнай удачай я падзяліўся з сястрой Галяй і лёг спакойна спаць. Якое ж было маё здзіўленне, калі назаўтра я ўбачыў, што слава мая як паэта выйшла за межы нашага двара і разышлася па пасёлку. Хлапчукі вывучылі вершык на памяць і чыталі яго ўголас усюды і ўсім, а асабліва тады, калі паблізу паказваўся той незадачлівы курыны забойца.

Само сабой зразумела, што інкогніта аўтара было раскрыта. Спачатку гэта мяне спалохала, але пасля, калі я ўбачыў, што дома ў нас усё ціха, я супакоіўся і нават заганарыўся. Слава — магутны рухавік, хоць і трымалася яна не столькі на нейкай мастацкай вартасці вершыка (якая там вартасць!), колькі на адкрытай, легальнай форме выказвання праўды.

На гэтым можна было б і спыніць расказ пра мой паэтычны дэбют, калі б ён не меў непажаданага для мяне працягу... А было так. Другі сусед Юрчонак Хведар, ягоная хата была за хатай цёткі Аўгінні, тапіў лазню. Дзень быў суботні, зіма, асаблівай работы ў людзей не было, і яны папрыходзілі ў лазню раней, чым яна была гатова. Чакалі ў хаце: жанчыны ў адной палавіне, мужчыны за дзвюхстворкавымі дзвярыма ў другой. Зайшоў у хату і я. І як толькі трапіў у першую палавіну, на мяне адразу накінуліся жанчыны з просьбай: прачытай свой вершык. Было адчуванне няёмкасці ад усіхнай увагі, але бацылы славы ўжо рабілі ўва мне сваю разбуральную работу. І я тут жа, ля парога, прачытаў вершык, прачытаў так, як трэба было б чытаць, калі б я стаяў на сцэне, а ў зале было не меней, як чалавек сто. Крычаў на ўсю хату і сам з задавальненнем слухаў свой голас. Не паспеў я скончыць чытанне, як раптам рэзка расчыніліся дзверы з другой палавіны хаты і адтуль раззлавана вылецеў мой бацька. Ён рашучым крокам падышоў да мяне, моўчкі ўзяў за вуха і, не выпускаючы яго з сваіх жалезных пальцаў, вывеў на вуліцу, паказаўшы каленам бок, у якім была наша хата.

Было крыўдна да слёз, былі і слёзы. Я пайшоў дамоў. Можна лічыць, што гэта было маё першае публічнае выступленне і мой першы зароблены ганарар.

Аказваецца, у другой палавіне хаты мужчыны за сталом гулялі ў карты. Болей таго, Марушкевіч, пра каго і быў мой вершык, быў бацькавым напарнікам па картах, і яшчэ горай — яны прайгравалі. А тут за дзвярыма літаратурны канцэрт з вершамі пра тое, «як убачыла Сабіна, што закраталась драбіна, выскачыла яна ў двор, і пачаўся ў іх спор: — Ты чаго тут, злодзей, ходзіш? Ты курэй са свету зводзіш...»

Школа ў Аколіцы адкрылася ў 44-м, у год вызвалення. Недзе ўслед за тым, як па ўтравелай зялёнай вуліцы сяла прайшлі стомленыя салдаты-вызваліцелі. Іх і не шмат было. Сяло ляжала ўбаку ад бойкіх дарог, і праход войскаў хутчэй меў сімвалічны сэнс. Нехта з вышэйшага начальства мудра рашыў, што людзі, стомленыя чаканнем, павінны на свае вочы пабачыць вызваліцеляў, каб канчаткова паверыць, што вайна хоць і не скончылася, але адкацілася ад іх.

Чырвонаармейцаў чакалі два дні. Мы залазілі на хаты і хлявы, выглядаючы, ці скора пакажуцца чырвоныя, а іх усё не было. Аб'явіліся яны пад вечар, запыленыя, стомленыя, але спакойныя і таксама ўпэўнена-шчаслівыя.

Адразу, як па нейчай камандзе, на вуліцу павыносілі сталы, на сталах былі хлеб і... графіны з самагонкай — тое, чым людзі маглі сустрэць і пачаставаць вызваліцеляў. Гарэлку салдаты не пілі, прасілі вады, і пабылі, можа, з паўгадзіны, адсыпаючы ад сваіх салдацкіх запасаў цукру-пяску кожнаму малому. Сыпалі на скібку хлеба, а ў каго не было хлеба, насыпалі ў шматкі паперы, дастаючы іх з той жа салдацкай торбы.

У школу спачатку перапісалі ўсіх вучняў, а іх набралася шмат, асабліва пераросткаў, выгадаваных чатырма гадамі ваеннага жыцця. Малароcлы нават на свае няпоўныя сем гадоў, я выглядаў дзіцём побач з 10—11—12-гадовымі дзецюкамі, не гаворачы пра тых, хто пачынаў вучыцца да вайны, а цяпер павінен быў працягваць вучобу ў другім, трэцім ці чацвёртым класах. Але імкненне не адстаць ад «усіх», як інстынкт калектыўнай бяспекі, пасадзіла мяне на школьную лаву побач з гэтымі пераросткамі.

Перапісвалі ў хаце цёткі Аўгінні. Я з мамай сядзеў на шырокай лаве, мае босыя ногі не даставалі да падлогі, і мне ўвесь час хацелася ўзяць сваю нагу ў руку. Мама брала тую маю руку сваёй рукой і апускала пад лаву: што ты робіш, у школе так няможна. Я супакойваўся, але праз нейкі час нага зноў была ў маёй руцэ.

Так я стаў вучнем першага класа Аколіцкай пачатковай школы. Размяшчалася яна ў дзвюх хатах трэцяй брыгады, гэта далёка, за ракой...

Помніцца некалькі школьных момантаў, якія і цяпер, праз столькі гадоў, прымушаюць унутрана чырванець пры адным успаміне пра іх. Але...

Зіма. Да позняга часу я загуляўся ў маіх браценікаў — Міколавых Вовы і Шуры. Здаецца, гулялі ў самаробныя шашкі — драўляныя кубікі, расфарбаваныя ў два колеры, на фанерцы, разлінаванай на квадраты, як на сапраўднай шашачнай дошцы. Дзядзька Мікола быў у шпіталі, а цётка Поля працавала ў калгасе кладаўшчыцай. У яе ў руках я і ўбачыў хімічны аловак, нават не аловак — меншую палову яго. Цётка Поля складала нейкую ведамасць, і лічбы і літары такім зайздросным залацістым бляскам адсвечвалі на паперы, што калі яна некуды выйшла, я ціхенька зацiснуў гэты аловак у жменю і шмыгнуў за дзверы.

Вярнуўшыся дамоў, я не мог не паспрабаваць пісаць сам і радаваўся, што літары гэтак жа залаціста адсвечваюць і на маёй паперы.

Аловак убачыла мама. «Дзе ты ўзяў яго?» — было заканамернае пытанне, на што я адказаў бліжэйшае: «Знайшоў». Дзе і як знайшоў, ніхто дапытвацца не стаў. З тым я і заснуў.

Па пасляваенным часе аловак, ды яшчэ хімічны, быў такой рэдкасцю, што проста так «знайсці» яго было, відаць, цяжэй, чым знайсці залаты самародак дзе-небудзь у Клондайку ці Магадане ў самую залатаносную пару. Прачнуўся на досвітку ад галасоў. Гарыць лямпа. У хаце цётка Поля. Мама падыходзіць да ложка, дзе мы спім з малодшым братам Жоржам, бярэ мяне за плячук, будзіць: «Сынок, прыйшла цётка Поля, яна ўчора згубіла аловак... Можа, ты бачыў яго? Ёй у кладоўку трэба ісці, накладныя выпісваць...»

Можа, бачыў... Просценькая мацярынская дыпламатыя. Куды тут дзенешся. Аловак давялося аддаць. Можа, з тыдзень я не паказваў носу ў цётчыну хату, пакуль аднойчы Вова не сказаў: «Пайшлі да нас, пагуляем у шашкі. Не бойся, мама пра аловак і не ўспамінае».

І праўда, і тады, і пазней цётка Поля ні разу ні словам, ні намёкам не напомніла пра той выпадак, пра тое маё «знайшоў».

Цяжка сказаць, што больш уздзейнічае на чалавека: акружаючыя людзі ці акаляючае асяроддзе. Мінаюць гады, чалавек з'язджае з месца, дзе прайшло ягонае дзяцінства, адступаюць у цень, быццам размываюцца ў часе, постаці людзей, з якімі ён жыў, а зямля, мясціны тыя, па якіх ён хадзіў, застаюцца, як жывыя. Нават болей, і іх можа ўжо не быць, час можа знішчыць і іх, але памяць захоўвае іх з такой беражлівасцю, быццам гэта і ёсць тое адзінае, вечнае, што павінна застацца.

Вось загаварыў пра школу, пра мосцік, пра раку Гарадзечанку тых, 1944—1945 гадоў... Даўно няма ўжо і школы той, час не пашкадаваў... Няма і млына таго, перавезлі ў Коўбчу, і, зноў жа, час не збярог і яго. Асушылі балоты, і заместа рэчкі засталася прамая канава...

Скажы сённяшнім школьнікам, што некалі тут несліся ў разводдзе крыгі, не паверыць... А ў памяці ўсё гэта жыве. І, бывае, калі-небудзь сасніцца так ясна, так чыста, што, прачнуўшыся, доўга жывеш шкадаваннем пра незваротнасць жыццёвага працэсу, і што не ад цябе залежыць магчымасць яго паправіць.



Фота farm.com

# «“Праўда праўд” для мяне — Бацькаўшчына…»

## Да 115-годдзя з дня нараджэння Ларысы ГЕНІЮШ

### Кветкі Ларысы Геніюш

Вечарам глуха пагрымвала, а ноччу на Зэльву абрынулася навальніца. Затое ранак выдаўся сонечны, пагодлівы. На танклявых бярозах, што раслі пад вокнамі інтэрната, па-сьвяточнаму сьвяцілася маладзенькае лісце. Сьвята называлася Апошні званок, яно выпала мне ў траўні 1973 года.

Я хутка паснедаў і, пераскокваючы праз лужыны, падаўся ў цэнтр мястэчка. Каля старой хаты, што прытулілася да вялізнага ясеня, павярнуў на падворак, падняўся на драўляны ганак, націснуў на кнопку званка.

Дзверы адчыніліся, у сенцах паказалася гаспадыня ў сінім фартуху. Я прывітаўся, яна кіўнула ў адказ галавой і здзіўлена глядзела на мяне, бо я ўпершыню прыйшоў так рана.

— Што здарылася, Валодзя?

— Праз гадзіну мой апошні званок, — патлумачыў я, — хачу папрасіць у вас кветак…

— Віншую цябе, хлопча, — усміхнулася Ларыса Антонаўна, — зараз пабачым, як падзячыць тваім настаўнікам. Шкада, півоняў яшчэ няма.

Яна вярнулася ў хату, узяла нажніцы. Мы зайшлі ў гародчык. На градах цвілі белыя і жоўтыя нарцысы, цюльпаны самых розных адценняў — ад чырвоных да бэзавых. Ларыса Антонаўна схілялася, няспешна зрэзвала кветкі. Потым адклала ў кошык, што стаяў каля плота, некалькі цюльпанаў з моцна раскрытымі пялёсткамі і аддала мне букет.

— Толькі далікатна трымай, каб ніводная не зламалася па дарозе.

Я падзякаваў, не паспеў мінуць ганак, як пачуў за сьпіной:

— Валодзя, пастой!

Спыніўся, пачакаў, пакуль падыдзе Ларыса Антонаўна.

— Чаму ты апусьціў кветкі?.. — гнеўліва спытала яна і, узяўшы за руку, падняла букет да майго твару. — Гэта не венік, вось так трымай! Каб здалёк усе бачылі, што ў цябе сёньня сьвята.

Мінула паўстагоддзя, а кветкі Ларысы Геніюш цвітуць у маім сэрцы.

*Уладзімір ЯГОЎДЗІК*



Ганак хаты Ларысы ГЕНІЮШ пры жыцці паэткі. Фота У. ЯГОЎДЗІКА

### Лісты Ларысы Геніюш

Зэльва. 17/X.72. г.

(Над пачатам ліста: «P. S. З часам заходзь да нас».)

Дарагі Валодзя!

Вось чытаю твой верш[1]. Радкі вельмі харошыя. Так і б’е з іх твая шчырасць нястрыманая, напорыстая. Так і трэба. Творчасць наша мусе быць шчырай, бо толькі так яна дойдзе да нашых суродзічаў. Ты, Валодзя, цяпер для мяне сябра па пяру, і мы будзем з табою спаборнічаць у тым, хто з нас лепей выскажа ўсю красу і сутнасьць Бацькаўшчыны нашай. Хто лепей адчуе душу народа нашага і падгледзіць яго звычаі-абычаі, якія сьведчаць аб сапраўднай культуры. У кожнага паэта свой шлях, свая індывідуальнасьць. Я магу толькі выказваць свае думкі аб тваіх вершах, а пішы ты іх так, як бачыш з’явы жыцьця. «Праўда праўд» для мяне — Бацькаўшчына, зямля дзядоў маіх, народ наш і гуманнасьць. Я хачу, каб сьвет быў лепшы, ласкавейшы. Толькі ласкавасьць мая не са слабасьці. Я ўмею, як мур, стаяць за свае праўды, і велікадушная, шчырая мая ласкавасьць з сілы духа маяго, з упэўненасьці. Я [неразборліва] не люблю вайны. Я з большай прыхільнасьцю даю людзям абразкі велічы (Усяслаў Чарадзей, Скарына і інш.), вялікай прыгажосці (Куфар), сілы духа і красы прыроды, і беларускасці. Вось табе і ўся мая «праўда праўд». Яшчэ я люблю сямейнасьць. Наагул, карэнні люблю. Вырастаючы з іх, я стаю вельмі моцна. Сацыялізм мы ўжо маем, а вось людзі ўсё яшчэ вельмі недасканалыя. Я шукаю прычыны, чаму гэта так, і хачу, каб яны былі — людзьмі з вялікай літары. Яны — мае суродзічы.

Бачыш, я адзінокая ў сваёй творчасьці і ў сваёй барацьбе. Я мала калі дзялюся сваімі думкамі. Ты прыйшоў да нас тады, калі моцна захварэла мая сястра[2]. Яна мінулы месяц памерла. Пішы, Уладзімір! Будзь разумны і крышку любі гэты сьвет. Пачуцці твораць паэтаў! З павагай Ларыса Геніюш.

Зэльва, 10/XII, 1980 г.

Добры дзень, Валодзя!

На гэты раз ліст дайшоў, што бывае не заўсёды. Перадача пра М. Забэйду-Суміцкага зроблена з вялікай любоўю і інтэлігенцыяй[3]. Пачаць ад здымка Маці з малым яшчэ сынам — гэта цудоўна. Узварушыла мяне аб’ектыўнасьць перадачы, яе мастацкі і эстэтычны ўзровень. Ня толькі ты, але і мілая Дыктарка дала з сябе ўсю цяплыню і шчырую сардэчнасьць, якая зрабіла гэтую перадачу нейкай урачыстай і разам інтымна-роднай. Дзякуй Вам за гэтую перадачу. Гэта рэдкая з’ява сёньня на нашых экранах, гдзе дарагія для Народа справы закранаюцца часта абыякава.

Посьпехаў Вам у далейшай творчай, узьнёслай і вартаснай працы!

Перадача гэтая прыгадала мне самыя шчасьлівыя хвіліны маяго жыцця, калі мы, маладыя яшчэ, з малым сыночкам жылі ў Празе чэскай, у сэрцы Эўропы. Чэхі дзівіліся часта, скуль такая сумленнасьць, праўдзівасьць, адвага і вялікадушша ў прадстаўнікоў бел(арускага) народа на чужыне? Яны памятаюць яшчэ гэта і сяньня. Усе мы жылі в(ельмі) дружна. Забэйда-Суміцкі быў частым госцем у нашай сям’і. Толькі на маі жаночыя плечы жыцьцё паклала куды больш цяжар, ад літаратуры пачынаючы. Я сяньня рада, што на маі толькі!.. Цешуся з дасягнення ўсіх Суродзічаў, гдзе б яны не былі. Вартасьць дасягненняў ёсьць розная. Гдзе-каго і абмінае належнае, але гэта драбніца. Важна тое, што зроблена, калі зроблена яно з любоўю і са сьвятлом натхнёнага гарэння для пакрыўджанага і дарагога сваяго народа! Посьпеху Вам усім! Вітаю Вас з надыходзячым Новым Годам! Няхай будзе ён плённы, мірны і радасны для Вас. Не абмінай, Валодзя, маёй хаты. Здароўе маё в(ельмі) няважнае і духовыя ўмовы маяго тут існавання зусім незайздросныя… З павагай Ларыса Геніюш.

Зэльва 17/II 1981 г.

Добры дзень, Валодзя!

Дзякуй за ліст, за здымак магілкі Маці Міхася Забэйды-Суміцкага. Хараша, што хоць нехта часам заблудзіць туды. Цешуся з Брэсцкага аддзялення Саюза піс[ьменнікаў] БССР. Малавата Вас, але ўзровень салідны[4]. Усё прыйдзе з часам, ды і важная больш якасьць, чымсьці колькасьць. Сябру А. з радасьцю буду вітаць у сваёй хаце. Ён в[ельмі] цікавы і сапраўды здольны паэт[5]. Калі ёсьць, дык няхай захопіць з сабою свае кніжкі. Я іх не маю, а можа, і маю, але загубіліся ў тлуме малых і вялікіх кніжак. Я даўно на яго зьвярнула ўвагу. Як тонка сказана: «Наміткі белыя туману чарот кранаючы плывуць». Як мудра сказана: «Перш чым выйсьці ў дарогу, перад гэтым люстэркам стань». Я буду чакаць Вас абодвух. Добра звані, альбо стукай у вакно. Часта моцна зачыняю дзьверы, бо ў малой Зэльві творыцца рознае, а я адна. Маю глыбокі і вялікі боль. Дастала ліста ад сябра з Польшчы. Піша: «На Юрку Вы не гневайцеся. Ён мае даволі цяжкія перажываньні. Нейкі псыхапат напаў на яго з нажом і параніў яго. Пасьля ён перажываў дэпрэсію і лечыцца». Яны доўга мне нічога не пісалі. Маўчала і я, а там такое рабілася. Адразу пазваніла. Дрэнна было чутно. Сын толькі выпісаўся з бальніцы. Тры нажавыя раны, адна ў вісок. Бандыт гуляе на свабодзе. Іронія. У Юркі аж зьмяніўся голас. Адчуваецца ў яго душэўная траўма. Мяне адразу схапіла зноў сэрца. Яно ўжо нікуды ня вартае. Не магу аб нічым іншым думаць. Вінавата тут, здаецца, прозьвішча нашае… Мне несказана цяжка. Прыходзяць людзі з ласкаю, са спакоем. Простыя, нашыя, грубыя крыху, да болі сардэчныя. Сяньня доўга адна мяне пераконвала з нейкім іскрыстым тварыкам, што мы свае з ёю, свае… Гэта каб я ўзяла ад яе тое, што яна прынесла. Мы не свае. Яна толькі доўга працавала са с. п. Мужам. Яе твар, сапраўды, сьвяціўся… Стараюся як мага трымацца. Званіла яму Дануся. Просіць вызаў.



Зэльва. 17/X-72 г.

Р. S. З часам заходзь да нас

Дарагі Валодзя!

Вось чытаю твой верш. Радкі вельмі харошыя. Так і б’е з іх твая шчырасць нястрыманая, напорыстая. Так і трэба. Творчасць наша мусе быць шчырай, бо толькі так яна дойдзе да нашых суродзічаў. Ты, Валодзя, цяпер для мяне сябра па пяру, і мы будзем з табою спаборнічаць у тым, хто з нас лепей выскажа усю красу і сутнасць Бацькаўшчыны нашай. Хто лепей адчуе душу народу нашага і падгледзіць яго звычаі-абычаі, якія сведчаць аб сапраўднай культуры. У кожнага паэта свой шлях, свая індывідуальнасць. Я магу толькі выказваць свае думкі аб тваіх вершах, а пішы ты іх так, як бачыш з’явы жыцця. «Праўда праўд» для мяне Бацькаўшчына, зямля дзядоў маіх, народ наш і гуманнасць.

Рукапіс першага ліста Ларысы ГЕНІЮШ

Не пускаюць цяпер, здаецца. Цяпер, пішучы пра М. Ів. Забэйду ці пра каго іншага, заўсёды ўлічвай тыя спэцыфічныя абставіны на чужой зямлі. Людзі змагаліся там іначай. Адно табе толькі скажу, што я, амаль, не сустрэла Беларуса, які б паважаў ці сымпатызаваў у той час хоць крыху немцам. Кожны іх ненавідзеў. А трэба было жыць і трэба было нешта рабіць, хоць бы захаваць жыцьцё сваіх людзей. Выкарыстоўваліся ўсе даступныя магчымасьці, каб да іх нейк прамовіць чыстай думкаю, родным словам, сваёю песьняю, чаго нельга было і за Польшчы. Рабіць інакшай было нельга! Рабілі так, як рабілі чэхі. Было небясьпечна і вельмі. Раскажу табе пры сустрэчы. Ніводнага лішняга слова! Ніводнага! Сяньня мне страшна, а тады я не магла інакшай, быццам нехта паклікаў мяне на такое.

Пішу табе на вершы, якія напісала мая злосьць пасьля гэтага факту: нажом у вісок лекару-пэдыятру!.. Ну і ну…

Бывай, Валодзя. Вітай сябру А. Буду чакаць Вас. Толькі з мяне ўжо не цікавы субяседнік. Папраджаю. Цалуй ад мяне сваю жонку. З павагай Ларыса Геніюш.

***

*Калі кранае нас жыцьцё*
*Суровай лапай,*
*Спрабуе нехта дыктаваць*
*Законы малпаў,*
*Сьвятлом біць трэба*
*У хмару цьмы,*
*Стрымоўваць ка́та.*
*Трэ памятаць, што людзі мы*
*І век дваццаты!*
*Як быццам выйшлі, вось, з лясоў,*
*На нас з клыкамі.*
*Гатовы мудрасьць усіх часоў*
*Таптаць нагамі.*
*Прага крыві ў вачах тупых —*
*Страшны малюнак.*
*Розум — не сіла супраць іх,*
*Страх — страх не ратунак.*
*Людскія душы як сагнуць,*
*Вось што ім сьніцца.*
*Усё гатовы праглынуць*
*Й не падавіцца…*
*Ў іх толькі ма́е чэсьць кулак,*
*З бяссільным біцца.*
*Жаль, той, хто людскасьцю прасяк,*
*Крыві баіцца…*
*І шчэрыць малпа злую пасьць,*
*Раздула храпы,*
*Не, нельга сяньня нам упасьць*
*Да ўзроўня малпаў!*
*Трэ выйсьці з малпай*
*Тварам ў твар,*
*Браць зло за рогі,*
*І біць ударам за удар,*
*— Да п е р а м о г і!*

***Ларыса Геніюш, люты 1981 г.***

Мне в[ельмі] цікава, ці 26-ты з’езд закране і ў СССР справу ляноты, распушчанасьці, хуліганства? У нас у Зэльві ўжо нат не хуліганства, а праступнасьць… Трэба з гэтым нешта рабіць, гаварыць гэта мала…

***Публікацыя і каментары Уладзіміра ЯГОЎДЗІКА***

[1] Гэты верш, прысвечаны Л. Геніюш, я перадаў праз Зосю Каліноўскую, суседку паэткі, якая прынесла мне кніжку «Казкі для Міхаські».

[2] Першы раз я прыйшоў да Л. Геніюш у жніўні 1972 г.

[3] Размова ідзе пра тэлеперадачу «Песняй акрылены», прысвечаную спеваку Міхасю Забэйду-Суміцкаму, якая выйшла ў эфір 9 снежня 1980 г. Праграмы Брэсцкай студыі тэлебачання праз Слонімскую тэлевышку прымаліся ў Зэльве.

[4] Сябрамі Брэсцкага абласнога аддзялення пісьменнікаў на той час былі У. Калеснік, М. Рудкоўскі, Н. Мацяш, І. Арабейка, М. Пракаповіч, С. Курылёва.

[5] Размова ідзе пра паэта Алеся Каско, мы дамовіліся наведацца ў Зэльву, аднак паездка не адбылася.

# Кнут ГАМСУН: драма доўгага жыцця



Алена ДАРАФЕЕВА

Кнут Гамсун — лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры 1920 года, пісьменнік-доўгажыхар, адзін з самых знакамітых нарвежцаў XX стагоддзя, — але слава яго неадназначная…

### Пры жыцці

4 жніўня 1859 года ў сям'і вясковага краўца нарадзіўся Кнут Педэрсэн — такое сапраўднае прозвішча Кнута Гамсуна. У дзяцінстве ён перажыў жорсткае абыходжанне дзядзькі, голад і пакуты. У юнацтве быў рознарабочым, шаўцом, настаўнікам пісьменства, паштальёнам, кандуктарам трамвая ў Чыкага, куды ездзіў у пошуках працы і шчаслівай долі.

Яго першым апублікаваным творам стала эсэ пра Марка Твэна (1884). Кнут Гамсун рана паверыў у свой літаратурны талент. Апроч уласных твораў пісаў рэцэнзіі на кніжныя навінкі для газет і часопісаў, але ўвесь час быў у нястачы і шукаў замовы. Гэтыя ўражанні і леглі ў аснову аўтабіяграфічнага рамана «Голад» (1890), які прынёс пісьменніку сапраўдную славу — не толькі на радзіме, але і далёка за яе межамі. Вось невялікая цытата з кнігі: «Куды мне падацца, дзе чакаць? Ісці ў кавярню з пустой кішэняю я не мог, і да знаёмых у гэты час дня не было як зазірнуць. Я задуменна паклыпаў па горадзе, паміж рынкам і вуліцай Грэнсэн, прачытаў "Вячэрнія навіны", толькі што вывешаныя на дошцы, прайшоўся па вуліцы Карла Юхана, потым павярнуў і накіраваўся да царквы Збаўцы, дзе знайшоў спакойнае месцейка на могілках, каля самай капліцы. Паветра тут было вільготнае, я сядзеў у цішыні, думаў, паціху пачынаў драмаць і ладна такі мерзнуць. Час ішоў. Ці можна быць упэўненым, што мой фельетон — гэта хоць і маленькі, але натхнёны шэдэўр? Бог ведае, ці няма ў ім памылак! Калі добра падумаць, яго могуць і зусім не прыняць, проста не прыняць! Мабыць, ён і праўда пасрэдны, а то і безнадзейна дрэнны; хто можа даць мне гарантыю, што яго ўжо не выкінулі ў кошык для папery?.. Мой душэўны спакой быў парушаны, я ўскочыў і кінуўся прэч з могілак».

Многія даследчыкі лічаць гэты твор адным з першых прадвеснікаў мадэрнізму ў еўрапейскай літаратуры.

«Голад» Кнута Гамсуна на беларускую мову пераклаў Лявон Баршчэўскі (кніга выйшла ў выдавецтве А. Янушкевіча і змяшчае раманы «Голад», а таксама «Пан» і «Вікторыя» (пераклала Лідзія Ёхансэн).

У 1890-я гады Гамсун піша раманы «Містэрыі» (1892), «Пан» (1894), «Вікторыя» (1898), нарыс «Духоўнае жыццё Амерыкі» (1898), дарожныя нататкі аб падарожжы па Расіі і па Каўказе «У казачнай краіне» (1903), спрабуе сябе ў драматургіі і паэзіі. Яго кнігі перакладаюцца на дацкую, шведскую, нямецкую, англійскую і рускую мовы.



Кнут ГАМСУН

У 1900-я гады Гамсун становіцца адным з самых папулярных у свеце пісьменнікаў і драматургаў. У 1920 годзе Кнут Гамсун атрымлівае Нобелеўскую прэмію па літаратуры за манументальную працу «Плады зямлі» (1917). Гэта гісторыя пра жыццё нарвежскіх сялян, якія захавалі сваю векавую прыхільнасць і непарагодную любоў да зямлі і вернасць патрыярхальным традыцыям. Гамсун здолеў апець чалавека працы, вольнага і незалежнага, паказаць жыццё простых людзей з усімі іх цяжкасцямі.

Кнут Гамсун быў і застаецца адной з самых супярэчлівых фігур у літаратуры XX стагоддзя. Як вядома, у 1930—1940-я гады пісьменнік падтрымаў Гітлера і яго нарвежскіх прыхільнікаў. Ва ўзросце 88 гадоў Гамсуна чакаў суд, псіхіятрычная бальніца, дом састарэлых, пагарда з боку блізкіх і прыхільнікаў яго творчасці. Тым не менш, ён знаходзіць у сабе сілы напісаць сваю апошнюю кнігу — «Па зарослых сцяжынках», якая даказала, што пісьменнік захаваў розум і літаратурны талент. У гэтай кнізе Гамсун даслоўна цытуе сваю прамову на судзе, прыводзіць дакументы і ўспаміны тых трагічных падзей. «Гэта боль нарвежцаў, што такі пісьменнік — гонар краіны — падтрымаў нацыстаў. Але ён не падзяляў антычалавечых гітлераўскіх перакананняў. Ён проста вельмі любіў Нарвегію і марыў аб адраджэнні славы старажытных скандынаваў, нардычнай расы і наіўна меркаваў, што Гітлер можа дапамагчы ў гэтым», — пісала біёграф Гамсуна Наталля Будур.

Пісьменнік памёр 19 лютага 1952 года ў сваім пакоі ў Нэрхальме ва ўзросце 92 гадоў.

### Пасля смерці

Чым далей у мінулае сыходзіла Другая сусветная вайна, тым спакайней станавілася стаўленне да Гамсуна ў Нарвегіі і ў свеце. На радзіме пісьменніка поўны 15-томны збор твораў выйшаў праз два гады пасля яго смерці.

У 2009 годзе ў Нарвегіі пад патранажам кронпрынцэсы Метэ-Марыт праходзілі вялікія мерапрыемствы, прысвечаныя 150-годдзю з дня нараджэння Гамсуна. На радзіме пісьменніка, у вёсцы Хамарай, быў адкрыты Культурны цэнтр Кнута Гамсуна. Была таксама адчаканена памятная манета і выпушчана паштовая марка з яго партрэтам. Міжнародны фестываль у гонар Кнута Гамсуна пачаўся на яго радзіме ў нарвежскай вобласці Нурланд, прадоўжыўся ў Осла, Рызе, Берліне, Маскве, Санкт-Пецярбургу і нават кітайскім Нанкін.

Да юбілейнай даты — у 2009 годзе — у нарвежскім выдавецтве «Gyldendal» быў апублікаваны самы поўны збор твораў пісьменніка ў 27 тамах, куды акрамя вядомых твораў упершыню ўвайшлі юнацкія літаратурныя доследы, вершы. Тэксты новага выдання былі адрэдагаваныя, каб дасягнуць адзінства і паслядоўнасці ў арфаграфіі, яе набліжэння да сучаснай нацыянальнай мовы. Па словах складальнікаў, тэксты прайшлі беражлівую лінгвістычную апрацоўку, «каб дыстанцыя паміж творамі і сучасным чытачом была як мага меншай, а задавальненне ад чытання Гамсуна — яшчэ большым».

У 2019 годзе выдавецтва «Gyldendal» аб'явіла конкурс на лепшую графічную адаптацыю рамана Гамсуна «Голад». Перамог малады нарвежскі мастак Марцін Эрнстсэн. Ён пераасэнсаваў вядомы твор у фармаце коміксу, раскрыўшы псіхалагічную глыбіню твора і падкрэсліўшы сродкамі графікі адчайную і безнадзейную барацьбу героя за жыццё. За гэтую працу Эрнстсэн быў ўганараваны некалькімі літаратурнымі ўзнагародамі, у тым ліку прэміяй «Grafill» у намінацыях «Лепшы комікс года» і «Лепшая літаратурная адаптацыя года» (2020).

Цяпер Кнут Гамсун — адзін з самых выдаваных аўтараў у сябе на радзіме і адзін з найбольш папулярных нарвежскіх пісьменнікаў у свеце.

# Жыццёвы травелог Х'юберта Крэкенторпа

Яўгенія ДАБРОВА

Англійскі празаік Х'юберт Мантэгю Крэкенторп (Hubert Montague Crackanthorpe, 1870—1896), дэкадэнт і эстэт, спявак вады і дажджавых аблокаў, патануў у Сене ў дваццаць шэсць гадоў пры нявысветленых абставінах. «Віньеткі» сталі апошняй яго прыжыццёвай кнігай. Гэта паэтызаваны фрагментарны травелог, напісаны ў падарожжах па Заходняй Еўропе. Ён складаецца з трыццаці сямі мініяцюр.

Х'юберта Крэкенторпа адносяць да кагорты так званых «маладых трупаў» — гэтае вызначэнне, якое сустракаецца ў літаратуразнаўстве, аб'ядноўвае некалькі імёнаў прадстаўнікоў позневікторыянскай мастацкай багемы, якія памерлі ва ўзросце каля трыццаці гадоў: Эрнэста Доўсана, Лаянэла Джонсана, Обры Бердслі, Эрыка Стэнбока… Многія з іх круціліся на арбіце галоўнай літаратурнай зоркі эпохі — Оскара Уайльда — і былі звязаны з «Жоўтай кнігай», самым наватарскім літаратурным часопісам лонданскага дэкадансу.

Х'юберт Крэкенторп, арыстакрат, багаты спадчыннік, нярэдка падарожнічаў па кантыненце. У Францыі ён наведваў Лангедок-Русільён, Правáнс, Пірэнеі; у Іспаніі — Краіну Баскаў, вяртаўся ў Францыю, адтуль — у Англію, зноў ехаў па французскіх землях, бачыў Нармандыю, Кальвадос, Парыж; затым любаваўся Жэнеўскім возерам у Швейцарыі; зноў прыбываў у Францыю; затым даследаваў Манака, Фларэнцыю і поўдзень Італіі.

«Віньеткі» — кніга, празрыстая ад дыхання вятроў і водаў. Яе героі — сінеча заліва, сонечнае святло, навальнічныя аблокі, саван прывіднага туману… Пустынны парк, таямнічыя драпіроўкі паветра, безуважлівы эскадрон гіганцкіх слупоў дажджу, хмары над кіпарысамі італьянскага гарадка, нябёсы з таямніча-блакітнай падфарбоўкай… Рэдка — жыхары горада. Крэкенторпа больш цікавіла прырода, што родніць яго з англьскай кантры-паэзіяй. Кіпенне лонданскага жыцця ён бачыў як клапатлівае торжышча граху, мітуслівая партовая вуліца Неапаля ўяўлялася яму прасякнутай сатанінскім зачараваннем — спеваком гарадскіх энергій ён не быў, а любаваўся відамі снежных гор і ўзгоркаў колеру індыга. Або ўглядаўся ў чорную неабсяжнасць мора, у таямніцу начы, каб зноў усвядоміць, якое дробнае жыццё і што каханне ёсць не што іншае, як юрлівая ілюзія, і пазайздросціць мору і яго ўздыхам у дні, «калі канец даўно наступіў».

Жанр, у якім створаны «Віньеткі», можна вызначыць як гібрыдны: нешта сярэдняе паміж вершамі ў прозе і празаічнымі мініяцюрамі. Апроч мініяцюрызацыі, маляўнічасці і бессюжэтнасці стыль цыклу адрозніваe ўвага да гукапісу: у арыгінале можна ўбачыць паўторы складоў і зычных. Захапленне фонікай для ангельскага літаратара тых гадоў было навіной і паказвала на французскі ўплыў.



Х'юберт КРЭКЕНТОРП

Градуючы паэзію і прозу як такія, літаратурны крытык Людміла Вязміцінава сцвярджала, што паэзіі ўласцівая цэнтраімклівасць (фокус унутр і ўглыб), а прозе — цэнтрабежнасць (фокус па-за), і ў гэтым іх галоўнае адрозненне. Разважаючы ў гэтых катэгорыях, некаторыя «Віньеткі» Крэкенторпа цэнтрабежныя (аўтар асэнсоўвае свет, які разгортваецца перад ім), а некаторыя — цэнтраімклівыя, і тут нават можа памяняцца вектар падачы, напрыклад, у нейкі момант ужо не апавядальнік глядзіць на прыроду, а прырода — на яго. «У зялёнасцяблінных джунглях хаваецца свет занятых сваёй маўклівай працай істотаў — мурашак, якія вечна кудысьці спяшаюцца; хрушчоў — шэрых цяжкавагавікоў, якія сонна кешкаліся; <…> паліраваных чорных жукоў на пабягушках… Усе яны па чарзе прыходзяць паглядзець на мяне. Парачка сініх мясных мух прашмыгвае навыперадкі; пухнатая пчала моцна напявае, пералятаючы з кветкі на кветку; і чорныя непрыемныя мухі навісаюць, звесіўшы доўгія баязлівыя лапкі».

Пры чытанні «Віньетак» стваравецца адчуванне пазачасавасці — аўтар галоўным чынам малюе карціны прыроды, а яна нязменная. І неба ў 1896 годзе не адрозніваецца ад неба сёлетняга, і мора. Адрозніваюцца толькі некаторыя гукі: рыпанне колаў, свіст дубца замест шамацення шынаў, — але ранішні цягнік усё гэтак жа прабягае праз Кастэла на шляху ў Фларэнцыю, і Везувій усё гэтак жа дыхае дымам на заліў.

Калі казаць пра час як стылістычную катэгорыю, ён у гэтай кнізе павольны, тэмп вельмі марудлівы. Яшчэ адна асаблівасць травелога — аўтар амаль не карыстаецца звычайным для падобнай прозы прыёмам «погляд чужынца» (які здольны ўбачыць тое, што занадта звыкла для абарыгенаў і таму не заўважаецца імі), гэта значыць не вывуджвае дзівацтвы. Яму як быццам усё знаёма. У любой краіне, па якой ён падарожнічае. Ён — частка гэтага свету.

У Крэкенторпа ёсць нейкае асаблівае адчуванне вады. Яго вабяць залівы мораў, рэкі, сінеча і вільготная смуга. Што наводзіць на думку: наўрад ці яго таямнічая гібель — забойства. Хутчэй за ўсё, ён сышоў сам. Па тэкстах відаць, як заваражвала яго вада. Яна цячэ з віньеткі ў віньетку: млынавы ручай у Пампеях; цурчыць Рона; Тэмза з паўзучым над ёй цёмна-рудым туманам; пагружаныя ў ціхую медытацыю блакітныя глыбіні Жэнеўскага возера, велічнага, нібы прыгожая спячая жанчына; застылы ў сінечы Неапалітанскі заліў…

Крэкенторп пісаў і пра вялікую мечаносную гвардыю сонца, іскрынкі світання і малінавай пудры заходу, апяваў падпалены сонечным зззяннем дыван з аблокаў — нібы велізарны тэнт з абпаленай каованай медзі… Але прыгажосць не прыглушала адчування «бязлітаснай нікчэмнасці жыцця і марнай зманлівасці любых высілкаў, горкага супрацілення смяротнаму згасанню, вострай нуды па веры ў смутную магчымасць падоўжыць існаванне за рысай…». Словы старажытнага выслоўя павярнуліся для яго насмешкай: "Не насыціцца вока, гледзячы; не напоўніцца, слухаючы, вуха"».

«Віньеткі» былі пачатыя ў красавіку 1895-га і завершаныя ў красавіку 1896-га, а выдадзеныя летам таго ж года, і ўжо ў лістападзе Крэкенторпа не стала.

## Прэмія імя Шолам-Алейхема

Дзяржаўнае агенцтва Украіны ў справах мастацтва і мастацкай адукацыі абвясціла аб прысуджэнні Прэміі імя Шолам-Алейхема 2025 года Леаніду Лейдэрману за зборнік апавяданняў «Каханая выйдзе».

«Каханая выйдзе» — зборнік апавяданняў, які ахоплівае розныя перыяды жыцця Адэсы, у прыватнасці — канца XX—пачатку XXI стагоддзяў. У кнігу ўвайшлі творы, апублікаваныя ў адэскіх альманахах «Палісадник» і «Дерибасівська — Рішельєвська». У апавяданнях адлюстроўваецца паўсядзённае жыццё і ўнутраны свет простых людзей, раскрываюцца тэмы чалавечнасці, годнасці, кахання як сэнсу жыцця.

Прэмія імя Шолам-Алейхема прысуджаецца штогод у сакавіку, у дзень нараджэння творцы, на конкурснай аснове пісьменнікам, перакладчыкам, сцэнарыстам і драматургам, якія з'яўляюцца грамадзянамі Украіны, за лепшыя літаратурна-мастацкія творы, якія папулярызуюць духоўную і культурную спадчыну ўкраінскага і яўрэйскага народаў і спрыяюць распаўсюджванню пазітыўнага іміджу Украіны ў свеце.




## Новая кніга Дэна Браўна

У верасні гэтага года выйдзе новая кніга амерыканскага пісьменніка Дэна Браўна, аўтара дэтэктыўнага рамана «Код да Вінчы».




Выдавецтва «Doubleday» абвясціла аб выхадзе трылера «Таямніца сакрэтаў» 9 верасня. Паводле слоў Браўна, гэта яго «самы складана спланаваны і амбіцыйны раман». Галоўным героем новай кнігі стане прафесар Роберт Лэнгдан. Апошні раман пра яго прыгоды выйшаў у 2017 годзе. (Хочацца верыць, што мастацкасці ў гэтым новым рамане будзе больш, чым рэкламнай прамоцыі.)

Як адзначана на афіцыйным сайце Дэна Браўна, у «Таямніцы сакрэтаў» Лэнгдан, прафесар сімвалалогіі Гарвардскага ўніверсітэта, едзе ў Прагу, каб наведаць наватарскую лекцыю вядомага вучонага Кэтрын Саламон. Яна павінна выдаць кнігу пра ашаламляльныя адкрыцці аб прыродзе чалавечай свядомасці. Аднак адбываецца жорсткае забойства, Саламон знікае разам з рукапісам, а Лэнгдан становіцца мішэнню магутнай арганізацыі — за ім палюе зламыснік, які, відаць, выйшаў з пражскіх легенд. Ва ўцёках прафесар з Прагі едзе ў Лондан і Нью-Ёрк.

«У захапляльнай гонцы праз падвойныя светы футурыстычнай навукі і містычных легенд ён раскрывае шакавальную праўду пра сакрэтны праект, які назаўжды зменіць наша разуменне чалавечага розуму», — гаворыцца ў апісанні кнігі. Па словах Дэна Браўна, яго захапленне Прагай пачалося «з яе глыбокай гісторыі містыкі і акультызму». Таму чэшскую сталіцу ён лічыць «ідэальным фонам» для трылера. «Doubleday» плануе выпусціць раман «Таямніца таямніц» як мінімум у дзесяці краінах, у тым ліку ў Чэхіі, Турцыі, Іспаніі і Фінляндыі.




## 125-годдзе пісьмовай літаратуры якутаў

У 2025 годзе Якуція адзначае 125-годдзе сваёй пісьмовай літаратуры. У 1900 годзе якуцкі пісьменьнік Аляксей Кулакоўскі (Өксөкүлээх Өлөксөй) напісаў паэму «Блаславенне Баяная» («Баянай алгыһа»).

Распараджэннем кіраўніка рэспублікі Айсэна Нікалаева ў сакавіку 2024 года быў створаны арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенні культурнай праграмы. Пасля сустрэчы з народнай паэтэсай, намеснікам старшыні Саюза пісьменнікаў Якуціі Наталляй Харламп'еваі Айсэн Мікалаеў паведаміў, што на працягу года запланаваны навукова-практычныя экспедыцыі па мясцінах, звязаных з жыццём і творчасцю якуцкіх пісьменнікаў (адна з запланаваных літаратурных экспедыцый пройдзе па Лене па слядах якуцкага класіка А. І. Сафронава-Алампа.). Адбудуцца літаратурныя конкурсы для дзяцей і моладзі, а таксама міжнародны фестываль паэзіі, які стане ключавой падзеяй юбілейнай праграмы. Ён будзе прысвечаны ціхаакіянскай тэматыцы — сярод запрошаных гасцей паэты з В'етнама, Кітая, Манголіі, а таксама перакладчыкі з гэтых моў.

## Паэзія сярод айсбергаў

Украінская культура валодае ўнікальнай здольнасцю знаходзіць свайго слухача і гледача нават у самых аддаленых кутках свету. У гэтым пераканаліся палярнікі са станцыі «Акадэмік Вярнадскі», якія наладзіла правялі незвычайны літаратурны вечар: яны чыталі вершы Васіля Стуса… пінгвінам. І, здаецца, гэтыя пярнатыя слухачы былі ў захапленні.




Геафізік Ганна Соіна, шэф-повар Віталій Міхайлюк і сістэмнік Аляксандр Кнырык зладзілі імправізаваны паэтычны вечар проста пад адкрытым небам. Дэкламуючы радкі Стуса, яны прыцягнулі ўвагу цэлай калоніі пінгвінаў, якія спачатку з цікавасцю назіралі за тым, што адбываецца, а потым ва ўласцівай ім манеры пачалі «каментаваць» тое, што адбываецца. Палярнікі жартуюць, што не заўсёды можна знайсці такую актыўную рэакцыю на паэтычныя чытанні нават у людзей.

Фота і відэа з гэтай падзеі хутка разышліся па сетцы, выклікаўшы захапленне. Бо гэта не проста смешны выпадак, але і магутны сімвал: украінская культура існуе, развіваецца і знаходзіць водгук нават на іншым канцы планеты.

## Узровень чытання студэнтаў ЗША зніжаецца

Вынікі Нацыянальнай ацэнкі прагрэсу ў адукацыі (NAEP), апублікаванай Міністэрствам адукацыі ЗША, паказалі, што вынікі разумення прачытанага сярод вучняў чацвёртага і восьмага класаў у 2024 годзе дасягнулі самых найніжэйшых узроўняў за ўсю гісторыю тэстаў. Сярэдні бал у 2024 годзе знізіўся на два балы ў параўнанні з 2022-м і на пяць — у параўнанні з 2019-м. Васьмікласнікі паказалі рэкордна высокі працэнт вынікаў ніжэй базавага ўзроўню, які вызначае фундаментальныя веды для гэтага ўзросту. У чацвёртакласнікаў гэты паказчык быў найгоршым за апошнія 20 гадоў.

Паводле справаздачы, студэнты з больш высокімі баламі змаглі часткова аднавіць страты пасля пандэміі, у той час як тыя, хто паказаў больш слабыя вынікі, яшчэ больш адсталі або не паказалі значнага прагрэсу. Тэндэнцыя да зніжэння паспяховасці назіралася і да пандэміі COVID-19, аднак дыстанцыйнае навучанне ды іншыя абмежаванні толькі пагоршылі сітуацыю.

За апошнія некалькі гадоў 37 штатаў ЗША прынялі законы або ўвялі новыя практыкі, накіраваныя на паляпшэнне навыкаў чытання. Нягледзячы на гэта, толькі Луізіяна змагла перасягнуць даваенны ўзровень у чытанні сярод вучняў чацвёртага класа. У іншых штатах ЗША вынікі альбо засталіся ранейшымі, альбо працягваюць падаць.

Магчыма, там статыстыка абышлася без «правільных» дапісак. А вось калі б вывучыць незалежную беларускую статыстыку…

## Раман Оруэла «1984» зноў бэстсэлер

Пасля інаўгурацыі Трампа попыт на антыўтапічны раман брытанскага пісьменніка Джорджа Оруэла «1984» вырас у ЗША. Як адзначае Цікавасць да кнігі ўзрасла пасля некаторых заяваў Трампа і яго памочнікаў. У прыватнасці, дарадца Трампа Кэліан Конвэй на пытанне журналістаў, чаму прэзідэнт назваў няслушныя дадзеныя аб колькасці гледачоў на сваёй інаўгурацыі, ужыла оруэлаўскі выраз «альтэрнатыўныя факты».

## Кніга расцягнулася на… 13 гадоў

Амерыканскі пісьменнік-фантаст, сцэнарыст, лаўрэат шматлікіх літаратурных прэмій Джордж Марцін, адказваючы на пытанне журналіста аб тым, як ідзе праца над шостай кнігай цыкла «Песня лёду і агню» (паводле якога быў створаны серыял «Гульня стальцоў / Game of Thrones»), прызнаўся, што выхад кнігі зацягваецца ўжо на 13 гадоў. Пра гэта ён распавёў у інтэрв'ю «The Hollywood Reporter». Паводле яго слоў, кожны раз, думаючы пра гэта, ён задае сабе пытанне, як гэта адбылося, і не можа знайсці дакладнага адказу. Аднак кідаць працу Марцін не мае намеру. «"Вятры зімы" па-ранейшаму застаюцца ў прыярытэце. Многія ўжо пішуць некралогі і кажуць, што я ніколі не скончу кнігу. Можа, яны і маюць рацыю, я не ведаю. Пакуль я жывы і поўны сіл», — сказаў Джордж Марцін.

Пісьменнік таксама адзначыў у інтэрв'ю, што цалкам можа быць адным з апошніх людзей у Галівудзе, якія лічаць, што экранізацыя павінна заставацца вернай зыходнаму матэрыялу. Па словах Марціна, яго «вельмі раздражняе», калі мяняюць зыходны матэрыял: ён не думае, што гэта робіць гісторыю лепшай. Нядаўна з гэтай прычыны аўтар раскрытыкаваў другі сезон серыяла «Дом дракона».

Джордж Марцін, які цяпер працуе над дзвюма апошнімі кнігамі з серыі «Песня лёду і агню», плануе напісаць яшчэ адну гісторыю. Ён будзе прысвечаны Браавосу.

## Найдоўгая кніга

Французскае выдавецтва «JBE Books» выпусціла самую доўгую кнігу ў свеце. Гэта манга «One Piece». Устаноўлены ўнікальны рэкорд: кніга складаецца з 21 450 старонак. Яна змяшчае большасць тамоў культавай мангі. Усяго выпушчана пакуль толькі 50 асобнікаў гэтага выдання. Паводле інфармацыі на сайце выдавецтва, усе асобнікі ўжо раскуплены. Па словах прадстаўніка выдаўца, «One Piece» у такім фармаце больш падобны на «нечытэльную скульптуру, якая парушае экасістэму распаўсюджвання коміксаў у Інтэрнэце».




Аўтарам мангі з'яўляецца не Ілан Мануаш, але менавіта ён стварыў гэтае ўнікальнае выданне, якое аб'яднала ўсе тамы папулярнай японскай мангі, напісанай Эйіцiра Ода. Гэта адна з самых папулярных і доўгатэрміновых манг у свеце. Яна пачала публікавацца ў 1997 годзе ў часопісе «Weekly Shōnen Jump» і працягваецца па гэты дзень. Паводле тэкста створаны тэлесерыял і чатырнаццаць паўнаметражных фільмаў.

Манга апавядае пра прыгоды Манкі Д. Луфі, хлопчыка, які выпадкова з'еў «д'ябальскі плод» і атрымаў здольнасць расцягваць сваё цела, як гуму. Яго галоўная мара — стаць каралём піратаў і знайсці легендарны скарб One Piece, пакінуты былым каралём піратаў Голам Д. Роджэрам. Луфі збірае каманду пад назвай «Піраты саламянага капелюша», падарожнічае і змагаецца з моцнымі ворагамі, у тым ліку марскімі афіцэрамі, іншымі піратамі і сусветнымі кіраўнікамі.